E-mail: nchas@tbm.org.by

# Новы Час

№ 2 (31) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА СТУДЗЕНЬ 2004 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63773* http://nchas.iatp.by

# Анатолю Грыцкевічу – 75

*Вельмі шаноўны Анатоль Пятровіч!*

*Ад шчырага сэрца віншуем Вас з паважаным юбілеем. Мноства людзей глыбока ўдзячныя Вам за тое святло, якое дзякуючы Вашай працы гісторыка дазваляе зазірнуць у далячыні нашай мінуўшчыны, запаліцца ўзнёслай любоўю да роднае даўніны. Вашы навуковая аб`ектыўнасць і грамадзянская мужнасць стварылі прывабны ўзор для перайманння моладдзю, якая жадае паслужыць Радзіме. Ад сябе і ад імя чытачоў газеты зычым Вам сто гадоў, нязломнага здароўя, творчага плёну ў Вашых даследаваннях, поспехаў у грамадскай дзейнасці, жыццёвай удачы!*

**Рэдакцыя «Новага Часу»**



Фота У. Шлапак

## Сцяжына лёсу

**– Анатоль Пятровіч, пакольки вы шмат даследавалі сярэднявечны Слуцк і шмат пісалі пра Слуцкае паўстанне, мноства вашых чытачоў і слухачоў упэўненыя, што вы нарадзіліся ў Слуцку. Дзе насамрэч вы нарадзіліся і гадаваліся?**

– У Мінску. 31 студзеня 1929 года. Мая маці працавала ў медыцынскім інстытуце, была дацэнт кафедры гінекалогіі. А бацька працаваў у бібліятэцы імя Пушкіна, настаўнічаў у 5-й мінскай школе. Яго ў 1938 годзе выключылі з партыі і звольнілі з працы за «невядзенне барацьбы супраць нацыяналістаў». Так што па тых часах яму пашанцавала. Потым, праўда, у партыі аднавілі. Бацька пайшоў добраахвотнікам на вайну, але загінуў у кастрычніку 1941 года, быў камісарам 321 сапёрнага батальёна, які цалкам палёг у баях на Заходнім фронце за Смаленскам. Так што маё дзяцінства прайшло на вуліцах Мінска, ад якіх цяпер амаль нічога не засталося, пра што я часам надта шкадую. А Слуцк мяне цікавіў, бо там нашыя карані, і сваякі, наш род, які праглядаецца на некалькі стагоддзяў.

**– У вашай біяграфіі засведчана, што амаль 10 год вы прысвяцілі навучанню ў трох вузах.**

– Было такое. Спачатку я паступіў у медыцынскі інстытут. Не таму, што мне надта хацелася, але маці была доктарка, яна прайшла вайну ў франтавым шпіталі, і сваякі радзілі – добрая спецыяльнасць, заўжды попыт, не будзеш без працы. І час быў пасляваенны, яшчэ сталінскі. А потым разам з братам Валянцінам я паступіў у інстытут замежных моваў завочна і завочна таксама на гістарычны факультэт БДУ. Працаваў тады лекарам, а ў вольны час вучыўся.

Працяг на стар. 3

## Беларусь, па сутнасці, атрымала ультыматум

Намер расійскіх кампаній спыніць пастаўкі газу ў Беларусь з'яўляецца «формай націску, каб хутчэй на расійскіх умовах пераходзіць да адзінай валюты». Такую думку выказаў на радыё «Рэха Масквы» экс-спікер Дзяржаўнай Думы Расійскай Федэрацыі Генадзь Селязнёў. Ён лічыць, што сітуацыя, якая ўзнікла з пагрозаў перапыніць пастаўкі газу беларускім спажыўцам, негатыўна адаб'еца на расійска-беларускіх гандлёва-эканамічных адносінах. На яго думку, гэта рашэнне выглядае як «ультыматум Беларусі». Гэтакі крок расійскіх «незалежных гаспадарчых суб'ектаў» адпаведна ўспрымаецца большынёй беларускага грамадства. Газавы ціск скарыстоўваецца Расіяй як жорсткі сродак навязаць свае жорсткія ўмовы.

## Пагроза «братняй» гандлёвай вайны

***Гэтак памылкова ўспрымаецца студзеньскі расійска-беларускі «газавы канфлікт» на Захадзе***

Як вядома, у ноч на 24 студзеня дзве расійскія нафтавыя кампаніі «Ітэра» і «Транснафта» рэалізавалі сваю пагрозу, скарацiўшы на трацiну пастаўкі газу ў Беларусь. Сам газавы манапаліст «Газпрам» болей не пастаўляе газ на Беларусь з пачатку студзеня, пасля таго, як канцэрн увосень мінулага года зняў с сябе гэтае абавязацельства. У студзені два незалежныя пастаўшчыкі закрылі ўзніклую дзіру, але патрабавалі замест 30 даляраў ЗША за 1.000 куб. м газу – 46 даляраў. У сувязі з тым, што Беларусь, магчыма, выканала свае абавязацельствы па аплаце атрыманага газу толькі часткова, пастаўшчыкі папярэдзілі пра поўнае спыненне паставак. Тым часам Беларусь настойвала, што ў «Газпрама» застаюцца даўгі, і здзяйсняла забор газу з транзітных газаправодаў, якія падаюць газ у Польшчу і Германію.

Якую ролю іграе ў спрэчцы вакол газу і ў цэлым у расійскім газавым бізнесе палітыка, сведчыць той факт, што абедзьве кампаніі зноў пачалі пастаўкі газу, калі прэзідэнт Пуцін двойчы размаўляў па тэлефоне з Лукашэнкам. Да канца студзеня павінны прайсці перамовы, на якіх сітуацыя нейкім чынам вырашыцца. Дасюль Расія крэдытавала беларусь, прадаючы ёй газ па ўнутрырасійскіх коштах. Калі б Беларусі давялося плаціць за газ столькі ж, што і Украіне (50 даляраў), гэта патрабавала б дадатковых выдаткаў у аб'ёме 200 мільёнаў даляраў ЗША, што адпавядала б 5% усяго дзяржаўнага бюджэту.

У дэманстрацыі сілы з боку Расіі нельга бачыць толькі адно імкненне дамагчыся выгаднага кошту для пастаўшчыкоў газу. У большай меры Крэмль раздражнёны тым, што непрадказальны Лукашэнка адмаўляецца ад даўно абяцанага ўвядзення адзінай валюты. Па-другое, робіцца відавочна, што Расія разглядае кантроль над пастаўкамі газу ў якасці галоўнага стратэгічнага інструменту для захавання свайго палітычнага ўплыву ў краінах, якія раней уваходзілі ў склад Савецкага Саюза. Беларусь на сённяшні дзень, нягледзячы на перамовы, якія працягваюцца не адзін год, не хоча аддаваць «Газпраму» парытэтную долю ў капітале кампаніі «Белтрансгаз», якая займаецца пастаўкамі газу ў Беларусі. Тое, што справа яшчэ не дайшла да поўнай газавай блакады, звязана, відаць, з тым, што расійскія кампаніі скарыстоўваюць Беларусь у якасці транзітнай краіны для паставак у Заходнюю Еўропу. Аднак апошнія падзеі падштурхоўваюць абедзьве «брацкія краіны» на мяжу гандлёвай вайны.



**«Neue Zuercher Zeitung»**

**Згубленую пячатку Мінскай гарадской арганізацыі ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» лічыць несапраўднай**

Паўлаву Міхаілу Якаўлевічу
Старшыні Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта
220050 г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 8

Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, занепакоеныя фактам высялення ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» з памяшкання па вул. Румянцава, 13, якое яно займае з 1989 года, з моманту свайго заснавання.

Мы прапануем Вам, шаноўны Міхаіл Якаўлевіч, паспрыяць адмене неабгрунтаванага рашэння мясцовай улады Партызанскага раёна г.Мінска і захаваць згаданае вышэй памяшканне за цэнтральнай сядзібай буйнейшай грамадскай арганізацыі, якая спрыяе развіццю дзяржаўнай беларускай мовы і абароне лінгвістычных правы грамадзян Беларусі.

| № | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Хатні адрас | Дата | Подпіс |
|---|---|---|---|---|
| 1. | | | | |
| 2. | | | | |
| 3. | | | | |
| 4. | | | | |
| 5. | | | | |
| 6. | | | | |
| 7. | | | | |
| 8. | | | | |
| 9. | | | | |
| 10. | | | | |
| 11. | | | | |
| 12. | | | | |
| 13. | | | | |

**Шаноўны чытач! Калі ты падтрымоўваеш гэтую заяву, то падпішы яе і дасылай на адрас: 220050, Мінск, пр. Ф.Скарыны, 8, старшыні Мінгарвыканкама М. Паўлаву**

# «Пяцёрка плюс» заявіла пра сябе

19 студзеня прайшла прэзентацыя народнай кааліцыі «Пяцёрка плюс». Партыя «БНФ «Адраджэнне», Аб'яднаная грамадзянская партыя, Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, Партыя камуністаў Беларуская і Беларуская партыя працы абвесцілі аб супольнай стратэгіі на парламенцкіх выбарах. Іх лідэры Аляксандар Бухвостаў, Вінцук Вячорка, Сяргей Калякін, Анатоль Лябедзька і Станіслаў Шушкевіч падпісалі мемарандум, у якім абвешчаны агульныя падыходы да выбарчай кампаніі.

Па словах Ст. Шушкевіча, галоўнае ў кааліцыі – гэта не «пяцёрка» палітычных партый, а той самы «плюс», за якім стаіць шэраг рэгіянальных грамадскіх арганізацый, на якіх і прыпадзе асноўны цяжар працы і адказнасці. Вітаць кааліцыю ў Беларусь прыехалі дэпутаты польскага Парламента, а таксама дэпутат Сейма Літвы Вацлаў Станкевіч, які звяртаўся да прысутных па-беларуску.

Байкотам на парламенцкіх выбарах восенню 2000 г. беларуская палітычная эліта свядома выключыла сябе з палітычнага працэсу. Зараз, сур'ёзна засумаваўшы па вялікай палітыцы, яны зноў заяўляюць пра сябе. Фармуецца адзіны спіс кандыдатаў. У аснову пакладзена формула «110+110». Гэта значыць, што на кожным з участкаў будзе не адзін, а два дэмакратычныя кандыдаты, і ў выпадку, калі асноўнага «знімуць», яго будзе каму замяніць.

Жывая надзея на аб'яднанне ўсіх дэмакратычных кааліцый. Лідэры «Пяцёркі плюс» спадзяюцца, што да іх далучацца «Свабодная Беларусь», новаствораны маладзёвы блок і жаночая кааліцыя. Усе кажуць пра будучыя перамовы на гэты конт і магчымыя супольныя дзеянні. Але для простага выбаршчыка – чым больш гэтых кааліцый, тым лепш. Альтэрнатыва і магчымасць выбраць яшчэ нікому не шкодзіла. Тым больш, што такая разнастайнасць абяцае цікавую і агітацыйную кампанію.

Найбольш актыўным з лідэраў пяцёркі падчас прэзентацыі быў Сяргей Калякін. Старшыня Партыі камуністаў Беларускай упэўнена адказваў на пытанні і размаўляў з журналістамі. У сваёй энергічнай прамове паўнапраўны сябра «Пяцёркі плюс» заклікаў адмовіцца ад «предрассудков конца 80-х – начала 90-х. гг., когда БНФ і коммунисты непримиримо боролись друг с другом». Прысутныя на заклік адрэагавалі моўчкі.

Аб'яднанне з камуністамі стала прычынай разладу «Пяцёркі» з некаторымі нацыянальна скіраванымі палітычнымі сіламі. Але з іншага боку камуністы ў будучым парламенце могуць адыграць станоўчую ролю, зрабіць палітычны працэс больш разнастайным. Магчыма, менавіта ў супрацьвагу іх перакананням усе астатнія ўзгадаюць пра сапраўдныя нацыянальныя каштоўнасці. Дарэчы, ні ў зале адукацыйнага цэнтру, ні на эмблеме новастворанага блоку месца для беларускіх сімвалаў не знайшлося.




Незразумелымі застаюцца стасункі кааліцыі з парламенцкай групай «Рэспубліка». Сітуацыя інтрыгуе. Прэс-сакратар «Рэспублікі» зачытаў на прэзентацыі вітальны зварот да народнай кааліцыі, падпісаны Валерам Фраловым, але ніводзін з дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў на прэзентацыі так і не з'явіўся.

Улада разлічвае на сённяшніх парламентарыяў. Правераныя, паслухмяныя, добра знаёмыя з імітацыяй палітычнага працэсу, якім ужо чатыры гады займаюцца ў Палацы, яны асноўныя кандыдаты на будучых выбарах. Самі дэпутаты таксама зацікаўлены ў працягненні свайго тэрміну, а будучае кааліцыі пакуль цьмянае і няяснае. Адсюль і вельмі стрыманая пазіцыя «Рэспублікі», якую апазіцыйнай можна назваць толькі ўмоўна.

Кааліцыйныя лідэры жадаюць спадабацца ўладам. За асцярожнасцю ў выказваннях і меркаваннях бачыцца несамастойнасць і нясмелась арганізатараў. «Пяцёрку» нясмела называюць новым суб'ектам беларускай палітыкі. Праграма кааліцыі складаецца са станоўчых і агульных па змесце тэзісаў: «альтэрнатыва», «лепшае жыццё», «роўнасць перад законам» і г.д. Канкрэтызаваць лідэры «Пяцёркі плюс» заклікалі кандыдатаў у кожнай канкрэтнай акрузе.

Хочацца спадзявацца, што ініцыятыва ажывіць палітычныя колы. Ёсць шанс дамовіцца, але гарантаваць, што памылкі мінулага не паўторацца, не магчыма. Анатоль Лябедзька на прэзентацыі паведаміў прысутным, што напярэдадні хадзіў у царкву і паставіў свечку за кааліцыю. Што ж да выбараў яшчэ дзевяць месяцаў, самы час, каб малітвы былі пачутыя і нарадзілася нешта жыццяздольнае.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

 



# Сцяжына лёсу

## *Гутарка ў рэдакцыі з шаноўным гісторыкам Анатолем Грыцкевічам напярэдадні яго юбілею*


Браты Валянцін і Анатоль з маці і бацькам. Здымак 1936 года

**– І якія мовы вы ведаеце?**

– Англійскую і нямецкую. Дарэчы, прыдаліся мне веды. І для гістарычных даследаванняў – мог сам чытаць дакументы і працаваць у архівах – і здолеў чытаць лекцыі па гісторыі Беларусі за мяжой. Польскую мову вывучыў самастойна, разам з братам.

**– Хто з людзей, з якімі вам выпала сустракацца ў жыцці, скажам, з гісторыкаў, найбольш памятны?**

– Наш выдатны гісторык Мікалай Мікалаевіч Улашчык. Ён жыў у Маскве, мне часта даводзілася туды ездзіць, ён гасцінна прымаў, з ім можна было гадзінамі весці гутарку не толькі па канкрэтных пытаннях навуковых, але пра ўсё. У яго была надзвычайная жывасць характару, жывая рэакцыя, зацікаўленасць да жыцця. А ён зведаў чатыры арышты ў сталінскія часы.

Найбольш цесныя стасункі ў мяне з братам Валянцінам, і не толькі таму, што мы браты, абодва займаемся гісторыяй і культурай, мы з ім аднадумцы, мы разумеем адзін аднаго з паўслова. У нас даўно ўсталяваўся звычай ліставання. І нашы лісты – найменш паведамленні пра здароўе, поспехі ці праблемы дзяцей. Мы давяраем адзін аднаму ацэнкі, думкі па розных праблемах і навуковых, і грамадскіх, і меркаванні аб асобах, кнігах, падзеях. Калі-небудзь, магчыма, наша эпісталярная спадчына дазволіць якому цікаўнаму чалавеку абараніць дысертацыю пра эпоху канца 20-га стагоддзя.

**– Няхай, Анатоль Пятровіч, да такой абароны дойдзе надта няхутка. Варта падрыхтаваць адпаведнага спецыяліста. Здаецца, моладзь зараз менш зважае на прафесію гуманітарнага даследніка, чым у вашы студэнцкія гады. Ці вы з вопыту работы ва Універсітэце культуры трымаецеся іншага меркавання?**

– Моладзь зараз крыху іншая, чым у нашыя часы ці чым моладзь нават 80-х гадоў. Няма той савецкасці, абмежаванасці, якая была ёй раней уласцівая. Можа, трохі больш прагматычная. Яны выраслі ў іншы час. Памятаю, як у 1993 годзе, калі ў Маскве разганялі парламент, я сядзеў, утаропіўшыся ў тэлевізар, не мог адарвацца – так мне здавалася важна бачыць, што там, што будзе. А мой унук цягнуў за руку – «Дзед пачытай. Што тут глядзець!» Я кажу: «Гэта значна, гэта падзея». А ён: «Ну што значна. Гэта іншая краіна». Я тады надта здзівіўся. Сапраўды, сённяшнія 20-гадовыя і ўявіць не могуць ранейшыя ўмовы. У іх свая краіна. Зразумела, яны будуць іншымі даследчыкамі, у іх іншая база. За апошнія 10 гадоў апублікавана гістарычных даследаванняў болей, чым за ўвесь пасляваенны час.

**– Анатоль Пятровіч, вы даследавалі розныя праблемы беларускай гісторыі – феадальнае грамадства, ваенную і рэлігійную гісторыю, стан шляхты і магнатэрыі. У вас, наколькі ведама, болей за 1100 навуковых публікацыяў. Што вам цяпер хочацца болей за ўсё напісаць? Які твор вам падаецца зараз найболей цікаўным, неабходным для аматараў гісторыі, для шырокага чытача?**

– Спадзяюся, што будзе падрыхтавана і выдадзена «Энцыклапедыя Аршанскай бітвы 1514 года». Менавіта не навуковае даследаванне, а энцыклапедычны даведнік, у які будуць сабраны артыкулы пра асобаў, пра зброю, ваенную тактыку, тагачасную геапалітыку, пра пароды коней, рыштунак, вазы, гарматы, тлумачэнні, чаму тады на полі бою амаль не заставалася параненых, пра аршанскую тапаніміку, шляхецкія роды, пра сцягі і святыні. Бо гэта і цікавы гістарычны матэрыял, і дазволіць выйсці з тых спрошчаных патрыятычных ці антыпатрыятычных трактовак, якія далёкія ад праўды, але прыжываюцца як любы штамп.


Анатолю Пятровічу тры гады

А яшчэ хочацца скончыць працу над манаграфіяй пра Мікалая Радзівіла Чорнага. Гэта надзвычай цікавая асоба. І маю спадзею, што дойдуць усё ж да выдання тыя работы, якія даўно мною падрыхтаваныя – праца па генеалогіі беларускіх магнацкіх родаў, спіс князёў вялікіх літоўскіх, спісы ўраднікаў.


Анатоль Пятровіч з найлепшымі сваімі творамі - з дочкамі

**– А вось у бягучы момант, спадар Анатоль, у юбілярны месяц, якія справы вас клапоцяць?**

– Праект, які мяне зараз захапляе, называецца «25 сакавіка», ён датычыць абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, станаўлення нашай дзяржаўнасці. Зразумела, мае значэнне, што першапачатковая непасрэдная БНР хутка была зменена бальшавіцкім дзяржаўным ладам, аднак найбольш істотна, што Беларусь выйшла на гістарычную арэну самастойна, а не ў складзе нейкай федэрацыі.

**– Зычым вам здзяснення ўсіх вашых праектаў.**

Фота Ул. Карміцкін


У часе прыняцця прысягі вайскоўцамі запасу на плошчы Незалежнасці 8 верасня 1992 года.


На прыёме ў папы рымскага Яна Паўла II

 

# Беларускі музей у Вільні

Увосень 1912 года газета «Наша ніва» пісала: «Клічам усіх, хто спагадае адраджэнню 10-мільённага беларускага народа, памагчы нам у збіранні музея. У музей, апрача рукапісаў і старых друкаў беларускіх, або не беларускіх, але цікавых, трэба збіраць старыя абразы, маляваныя на палатне, на досках і на блясе; выразаныя з дрэва і металу фігуркі; клішэ да друкавання малюнкаў, старую зброю і грошы; старасвецкую адзежу сялянскую, мяшчанскую, шляхоцкую; сялянскія вырабы, на якіх ёсць які цікавы малюнак тканы ці выразаны; старасвецкія вырабы са шкла, парцаляны, гліны, калі яны маюць на сабе нейкі цікавы малюнак ці цікавую форму і іншае».

Так, у Вільні, на пачатку мінулага стагоддзя ствараўся першы беларускі музей. Фармальна музей існаваў з 1921 года па 1944, а да гэтага часу – як прыватная калекцыя Івана Луцкевіча.

Ролю Івана Луцкевіча, выбітнага беларускага дзеяча грамадска-палітычнага і культурніцкага руху пачатку XX стагоддзя, цяжка пераацаніць. Менавіта дзякуючы ягоным намаганням пачала выходзіць першая беларуская газета – «Наша доля», а пазней – «Наша ніва». Але справаю ўсяго жыцця стала для Луцкевіча стварэнне беларускага нацыянальнага музея: ён праводзіў археалагічныя раскопкі, арганізоўваў этнаграфічныя вандроўкі, шукаў і вывучаў помнікі гісторыі Беларусі, збіраў прыватную калекцыю беларускай даўніны.

Гэта калекцыя і стала асновай для стварэння будучага музэя. З 1906 года экспанаты калекцыі Луцкевіча знаходзіліся пры рэдакцыях газет «Наша ніва» і «Гоман». І кожны, хто наведваўся ў рэдакцыю, мог з імі азнаёміцца.

А ў 1921 годзе, праз два гады пасля смерці Івана Луцкевіча, музей стаў існаваць як самастойная грамадская ўстанова. Ён размясціўся ў былым кляштары базыльянаў на вуліцы Вострабрамскай, старажытныя будынкі якога да сённяшняга дня называюць у Вільні Базыльянскімі мурамі. Там Беларускае Навуковае Таварыства, створанае па ініцыятыве таго самага Івана Луцкевіча ў студзені 1918 года, атрымала памяшканне. І адразу ж Базыльянскія муры сталіся сапраўдным цэнтрам грамадска-культурнага жыцця беларусаў. У міжваенны перыяд, апроч уласна навуковага таварыства і музея, тут дзейнічалі беларуская гімназія і драматычная майстроўня Францішка Аляхновіча.

Фонды музея налічвалі больш за 13 тысяч адзінак захавання. Гэта былі прадметы археалогіі, этнографіі, старажытныя кнігі, карціны, манеты, зброя.

Найстарэйшаю кнігаю, што захоўвалася ў музеі, было рукапіснае Жухавіцкае Евангелле XIV стагоддзя з багатымі ілюстрацыямі. З рукапісных кніг вялікую навуковую цікавасць уяўляў Аль-Кітаб, мусульманскія тэксты на беларускай мове, напісаныя арабскім пісьмом. Іван Луцкевіч знайшоў іх пад Вільняю ў мястэчку Сорак Татар. У аддзеле старадрукаў захоўваліся частка Біблії 1517 года, надрукаваная ў Празе Францішкам Скарынам, віленскае выданне Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 года (друкарня братоў Мамонічаў), кнігі XVII – XVIII стагоддзяў з Нясвіжскай, Слуцкай, Полацкай, Віленскай друкарняў.

Пры музеі быў створаны архіў найноўшай гісторыі (пазней аднаўленая «Наша ніва» таксама спрабавала аднавіць архіў). Таксама існавала бібліятэка, якая налічвала 14 тысяч тамоў. Тут захоўваліся камплекты «Нашай нівы», іншыя беларускія перыядычныя выданні пачатку стагоддзя. Асаблівую гістарычную значнасць мелі рукапісныя дакументы і перапіска беларускіх незалежніцкіх арганізацыяў і палітычных партыяў, асабістыя паперы дзеячаў беларускага адраджэння.

У кастрычніку 1939 года, калі Вільня была занятая Чырвонай Арміяй, Беларускае Навуковае Таварыства было зліквідаванае савецкімі ўладамі, большасць супрацоўнікаў музея былі расстраляныя ці высланыя. Потым з Мінска прыехала ліквідацыйная камісія і падзяліла экспанаты: частка засталася ў Вільні, частка паехала ў Мінск. Беларускі музей у Вільні перастаў існаваць.



Вільня – самы каштоўны экспанат музея

У кастрычніку 2002 года ў беларускім друку прамільгнула паведамленне пра тое, што камітэт па адукацыі, навуцы і культуры Сойма Літвы прыняў пастанову пра аднаўленне дзейнасці ў Вільні Беларускага музэя імя Івана Луцкевіча.

Пра тое, што сёння ўяўляе сабой беларускі музей імя Івана Луцкевіча ў Вільні, расказвае **дырэктар музея Сяржук ВІТУШКА**.

– Нажаль, сёння наш музей не мае ні ўласнага памяшкання, ні фінансавання.

У 1944 годзе губляюцца сляды большай часткі калекцыі Луцкевіча і беларускага музея: літоўцы сцвярджаюць, што 95% экспанатаў было перададзена ў Мінск, беларусы, наадварот, лічаць, што большасць экспанатаў засталася ў Вільні. Сёння, напэўна, ужо амаль немагчыма адсачыць, куды падзеліся гэтыя рэчы, ці ляжаць яны ў фондах беларускіх альбо літоўскіх музеяў, ці зніклі ўвогуле.



Нам застаецца толькі спрабаваць знайсці хаця б нейкія з іх, наладжваць кантакты з сённяшнімі ўладальнікамі экспанатаў, апісаць гэтыя экспанаты, можа быць, стварыць віртуальную экспазіцыю ў інтэрнэце.

Бо вельмі праблематычна на сённяшні час іх атрымаць назад. У Літве ёсць закон аб музеях, у якім запісана, што былым уладальнікам ніякія рэчы не вяртаюцца. Гэта прыкра, але іншага шляху няма. Сапраўды трагічная гісторыя, што той стары беларускі музей быў знішчаны. Але так склалася, з гэтым трэба змірыцца. І стварaць новы беларускі музей у Вільні.

Калі ў 1944 годзе музей быў знішчаны, музейную працу вялі прыватныя асобы. Янка Багдановіч, Пётра Сергіевіч, Зоська Верас збіралі архівы. Да іх прыязджалі навукоўцы, літаратары, мастакі, яны маглі паглядзець беларускія экспанаты. І сёння ўсё гэта ёсць у прыватных калекцыях. Таму на гэтым этапе мы вызначылі галоўным напрамкам нашай дзейнасці – знаходзіць і апісваць прыватныя архівы віленчукоў, фіксаваць, дзе што ляжыць. Прыйдзе час, будуць грошы, і мы зможам сабраць усе гэтыя рэчы ў адным месцы. А зараз галоўнае, што ўсё гэта фіксуецца і захоўваецца.

Галоўнае, каб беларускі музей у Вільні быў. Чалавек можа пражыць без рукі ці нагі. Вось я жыву без нырак. Цяжкавата, але жыць можна. Але нельга пражыць без галавы, без сэрца. І вось так жа Беларусь можа пражыць без Беластока ці Смаленска, але без Вільні не атрымліваецца: уся гісторыя адбывалася тут. Тут быў Скарына, тут быў Каліноўскі, «Наша ніва». Сёння для літоўцаў Вільня – гэта адміністрацыйны, палітычны, культурны цэнтр. А для беларусаў Вільня – гэта духоўны цэнтр. І таму тут павінна быць установа, якая б вывучала гісторыю і прапагандавала б яе.

Мы не абмяжоўваемся толькі збіральніцкай працай ды захаваннем у скрынках старых экспанатаў. Гісторыя не стаіць на месцы, увесь час адбываецца штосьці новае. І наша задача таксама фіксаваць гэта новае, што ствараецца сёння. Мы рыхтуем тэматычныя выставы, адзначаем беларускія святы, арганізуем семінары і канферэнцыі.

Галоўныя мэты нашага аднаўленага музея – гэта, з аднаго боку, даследаванне беларускай віленскай гісторыі, з другога – фіксацыя сучаснага гістарычнага працэсу. І ў гэтай працы мы чакаем падтрымкі і запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх, каму неабыякавы лёс беларускай Вільні. **Наш кантакт muzej@vilnia.com**

**Кася КАМОЦКАЯ,**
*Вільня*

# Беластоцкая «Ніва» абнаўляецца

**З Новага году ў тыднёвіка беларусаў Польшчы «Ніва» змянілася кіраўніцтва – старшынём праграмнай рады і галоўным рэдактарам газеты стаў вядомы на Беласточчыне грамадскі дзеяч Яўген Вапа.**

**Ёсць спадзеў, што з прыходам гэтага энергічнага і заангажаванага ў беларускую справу па абодвух баках мяжы чалавека тыднёвік «Ніва» не толькі захавае статус флагмана беларускага друкаванага слова ў Польшчы, але больш асучасніцца ды здабудзе новых прыхільнікаў.**

**«Ніва» сапраўды ўжо стала жывой легендай і праз два гады адзначыць сваё 50-годдзе,** – гаворыць Яўген Вапа. – **Мабыць, у тым, што, паводле апошняга перапісу, у Польшчы амаль 50 тысяч чалавек запісаліся беларусамі, і ёсць вялікая заслуга тыднёвіка...»**

Сёння беластоцкая «Ніва» разыходзіцца накладам у дзве з паловай тысячы асобнікаў, 500 экземпляраў ідзе ў Беларусь, ёсць падпісчыкі і ў іншых краінах свету, дзе існуе беларуская дыяспара. Калядны нумар з каляровай укладкай-календаром разышоўся накладам у 14 тысячаў! Акрамя ўсяго, нягледзячы на «кірылічнае напісанне», тыднёвік «Ніва» чытаюць і палякі, а сама газета мае ўплыў на фармаванне грамадскай думкі ў рэгіёне. Часта на «ніўскія» публікацыі рэагуе і амбасадар Беларусі ў Варшаве Павал Латушка.

**«Натуральна, супрацоўнікі «Нівы» не могуць не заўважаць і сур`ёзных праблемаў у галіне беларускага школьніцтва, не рэагаваць на працэсы паланізацыі і асіміляцыі беларусаў у Польшчы,** – працягвае Яўген Вапа. – **Але мы не прадугледжваем двухмоўнага варыянту газеты...»**

Неафіцыйна гаворыцца, што колішняе кіраўніцтва на чале са старшынём праграмнай рады прафесарам Яўгенам Мірановічам падало ў адстаўку з-за інспіраванага фінансавага скандалу. Фіскальная камісія закідала супрацоўнікам «Нівы» нямэтавае выкарыстанне дзяржаўных грошай у суме 174 тысячы злотых (больш за 40 тысячаў даляраў!).

**«Увесь скандал – гэта мыльная бурбалка, раздзьмутая непрыхільнай прэсай,** – удакладняе колішні галоўны рэдактар «Нівы» Віталь Луба. – **Проста былі неадрэгуляваныя і недасканалыя моманты ў фінансаванні тыднёвіка праз Міністэрства культуры Польшчы, якія не маглі не адлюстравацца ў бухгалтэрыі. Мы накіравалі адпаведныя паперы ў міністэрства, а яно ў падатковыя органы, і ўсё павінна нармалізавацца...»**

Цяпер гэтую справу вывучае польская пракуратура. Дзіўна, што і некаторыя выданні ў Беларусі «купіліся» на танную сенсацыю і передрукавалі інсінуацыі, чым пакрыўдзілі беластоцкіх братоў-беларусаў.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці ды праваакцыі надобразычліўцаў, беластоцкая «Ніва» не толькі захавала свой калектыў і надалей атрымлівае датацыю Міністэрства культуры Польшчы, але збіраецца пашырыць кола аўтараў ды дастойна адзначыць свой паўвекавы юбілей.

Ніва

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 1 (2486) Год XLIX Беласток, 4 студзеня 2004 г. Цана 2,00 зл.

У Польшчы і Фінляндыі



У пошуках адлігі

**Вацлаў ГАЛІМСКІ**

# Зацугляная наша навука

***Нядаўна Акадэмія навук Беларусі святкавала сваё 75-годдзе, а на мінулым тыдні адзначаўся Дзень навукі. З нагоды гэтых падзеяў рэдакцыя папрасіла знанага беларускага навукоўца сп. Радзіма Гарэцкага даць інтэрв'ю нашай газеце.***

**Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі - акадэмік НАН Беларусі, замежны член Расійскай АН, доктар геолага-мінералагічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі БССР, лаўрэат дзяржаўнай прэміі БССР, прэміі РАН, ганаровы дырэктар Інстытута геалагічных навук, член Амерыканскага геафізічнага саюза, прэзідэнт рэспубліканскага фонду братоў Гарэцкіх.**

**– Радзім Гаўрылавіч, неаднаразова кіраўніцтвам казалася пра замену фундаментальных накірункаў у навуцы на больш практычныя, прыкладныя. Як ідзе праца ў гэтым накірунку?**

– Зараз у нас ідзе час рэфармавання. Мэта – зрабіць так, каб усё было як мага бліжэй да народнай гаспадаркі. Даследаванні, далёкія ад ажыццяўлення закрываюць, не даюць грошы. Гэтая тэндэнцыя вельмі моцная. На жаль, рэфармаванне ідзе досыць павольна і не заўсёды на карысць навуцы. «Прыкрываюць» фундаментальныя напрамкі, больш грошай выдаецца на прыкладныя. Такім чынам, усе вымушаныя працаваць на бліжэйшы вынік. А з фундаментальных даследаванняў, зразумела, вынік нябачны.

Зараз ужо завяршылася аб'яднанне Аграрнай і Нацыянальнай акадэмій. У акадэміі каля 16 тысяч супрацоўнікаў, з іх каля 90 акадэмікаў і 100 членаў-карэспандэнтаў. Былі часы, калі вельмі шмат навукоўцаў выязджала, тады колькасць скарацілася да 9 тысяч чалавек.

Навука пракарміць не можа. Нават акадэмікі і члены-карэспандэнты вымушаны займацца адначасова некалькімі справамі, чытаць лекцыі, напрыклад.


Фота У. Шляпак

Але ўся бяда прыкладных навук у тым, што навука як такая ці навуковыя распрацоўкі ў ёй амаль не запатрабаваныя. Напрыклад, нашыя тэхнікі распрацавалі унікальны медыцынскі скальпель. Казалі, што ён лепшы ў свеце. Але ўвесці гэтую распрацоўку ў вытворчасць немагчыма, і ўжо шэсць гадоў яна незапатрабаваная.

Каб увесці навукова-распрацаваную навінку, трэба грошы, укласці інвестыцыі, пераналадзіць вытворчасць. Усе гэтыя выдаткі акупяцца толькі праз 2–3 гады і, магчыма, прынясуць прыбытак. Але на гэта грошай няма. Няма інвестыцый, замежнікі да нас не ідуць. Без гэтага ўсе рэформы – толькі частка афіцыйнай прапаганды. Можа, нешта і ўводзіцца, але вельмі слаба. Канкрэтна гэта бачна ў галіне машынабудавання: аўтамабілі, трактары...

**– Падумалася, што вы назавеце «распрацоўкі» па ідэалогіі ...**

– На гэта грошай не шкадуюць. На маю думку, уся гэтая ідэалогія – пустая справа. Павінна быць беларуская нацыянальная ідэалогія, за якую змагаецца ўжо не адно пакаленне. Дзяржаўнасць, незалежнасць, дэмакратыя і беларускае нацыянальнае адраджэнне інтэгральнага тыпу – адраджэнне мовы, культуры (у шырокім сэнсе), навукі, эканомікі, палітыкі. Гэта ідэя, вакол якой маглі б аб'яднацца ўсе нашыя нацыянальныя сілы. А так савецкі грамадзянін цягне нас назад у Савецкі Саюз.

**– Фундаментальныя даследаванні - гэта інвестыцыя ў будучыню. Ці азначае гэта, што праз некаторы час мы можам сутыкнуцца з сур'ёзнымі праблемамі?**

– Я думаю, што ў некаторай ступені так і ёсць. У гэтым, праўда, не ўсе са мной згодныя. Я лічу, што фізіку, матэматыку, тэхніку можна распрацоўваць дзе заўгодна, у любой краіне свету, і адтуль можна ўзяць некаторыя дасягненні.

Але больш важнымі для нас з'яўляюцца рэгіянальныя навукі, якія могуць даследаваць і распрацоўваць толькі беларускія вучоныя. Ім зараз амаль не надаецца ўвагі. Гэта ў першую чаргу гуманітарныя напрамкі даследаванняў. Наша бяда ў значнай ступені была з-за таго, што і за савецкім часам, і ў часы перабудовы не было належнага развіцця гуманітарных навук. Я маю на ўвазе гісторыю, геаграфію і геалогію, мовазнаўства, фальклор, літаратуру. Мы ўсе, на жаль, слаба гуманітарна адукаваныя, асабліва некаторыя нашыя тэхнікі. Але не толькі яны, таксама і палітыкі.

Заалогія, батаніка – гэтыя навукі можам вывучыць толькі мы самі. Мы ўвесь час плачамся, што ў нас няма карысных выкапняў, мы бедныя, нічога не маем. Гэта няправільна. Калі нас параўнаць з еўрапейскімі краінамі, па ўсіх паказчыках, мы ўваходзім у першую дзесятку. З гэтага пункту гледжання мы багатыя.

Больш за ўсё валюты ў наш бюджэт прыносіць продаж калійных солей. Ні трактары, ні машыны, а соль. Гэта дае дзяржаве каля 1 мільярду даляраў штогод, а ўвесь бюджэт – каля 5–6 мільярдаў. Нафты ў нас няшмат, але каля 2 мільёнаў тон мы маем. Усяго нам трэба 8–10 мільёнаў тон. Акрамя гэтага, мы цалкам можам самастойна задаволіць свае патрэбы ў будаўнічых матэрыялах. А колькі дае наш лес, колькі можа даваць наша прыгажэйшая прырода. Але гэта нікому не зразумела. Людзі не ўмеюць лічыць. У Японіі, напрыклад, увогуле няма карысных выкапняў...

**– Распавядзіце, калі ласка, ці ёсць нейкая традыцыя святкавання Дня беларускай навукі?**

– Раней Дзень навукі святкавалі як мае быць. У часы, калі я працаваў віцэ-прэзідэнтам акадэміі, мне некалькі разоў прыходзілася арганізоўваць святкаванне. Усё праходзіла вельмі ўрачыста. Абавязкова запрошваліся ўсе члены Акадэміі навук, члены-карэспандэнты і акадэмікі. Многа хто да нас прыязджаў з-за мяжы. Запрашалі таксама наша кіраўніцтва.

А ў гэтым годзе атрымалася так, што гэты дзень адзначалі 23 студзеня ў Палацы прафсаюзаў. Усё прайшло вельмі ціха, нават для нас. У сродках масавай інфармацыі Дзень навукі быў асветлены вельмі слаба.

**– Крыху больш за два гады таму ў Акадэміі навук памянялася кіраўніцтва. Прызначэнне новага прэзідэнта НАН РБ тады выклікала шмат самых розных і супрацьлеглых ацэнак. Што з гэтага часу змянілася, на ваш погляд?**

– Я належу да тых людзей, якія не лічаць гэты крок прагрэсіўным. Я не ведаю, як думае большасць, магу сказаць толькі пра сябе. Акадэмія навук да апошняга часу была больш-менш дэмакратычнай установай, дзе абавязкова адбываліся выбары прэзідэнта і кіраўніцтва акадэміі. Канешне, гэтыя выбары ўзгадняліі выбіралі звычайна таго, каго хацела кіраўніцтва. А зараз прэзідэнта назначае кіраўнік дзяржавы. Гэта з'яўляецца парушэннем закона і статута НАН, бо там запісана, што толькі акадэмікі маюць права выбіраць. Так ва ўсіх акадэміях свету. Быў такі адзіны выпадак у Казахстане, калі прызначылі чыноўніка кіраваць акадэміяй, але гэта хутка адмянілі.

Я не хачу сказаць, што сп. Мясніковіч кепскі кіраўнік. Гэта чыноўнік высокага класу, але ён не навуковец, таму яму цяжка зразумець спецыфіку працы. Ён стараецца, у яго вельмі вялікі прагрэс. Але за гэты час грошай не стала больш. Амаль ва ўсіх інстытутах зараз ідзе скарачэнне. Усе, хто дасягнуў пенсійнага ўзросту, звальняюцца ці пераходзяць на палову стаўкі.

**– А ці прыходзяць на іх месца маладыя?**

– Быў час, калі маладыя зусім не прыходзілі. Зараз прыходзяць. Раней навука не магла пракарміць моладзь. Зараз да нас ідуць, таму што ўсё роўна нідзе не заробіш.

**– Нядаўна святкавалі 75-годдзе акадэміі. Як прайшлі ўрачыстасці?**

– Я з'яўляюся замежным членам Расійскай Акадэміі навук. Калі РАН было 275 год, мяне запрасілі на ўрачыстасці разам з жонкай. Усё адбывалася на вышэйшым узроўні. Прысутнічала ўсё кіраўніцтва краіны, быў урачысты прыём у Крамлі.

У нас самым высокім госцем на святкаванні быў намеснік прэм'ер-міністра, таксама віцэ-прэм'еры і міністры. Было многа гасцей, прэзідэнт Украінскай акадэміі ў тым ліку. Урачыстае паседжанне пачалося а дзесятай гадзіне, а ў 10.30 раптам Мясніковіч кажа, што ў 11.00 яго і гасцей чакае прэзідэнт, хоча з імі пагаварыць. Вось такія да нас адносіны. Мяне гэта здзівіла. Гэта проста некультурна.

**– Ці існуюць зараз так званыя акадэмічныя кланы?**

– Я думаю, што асаблівых кланаў не было. У нас ніколі не абараняліся няякасныя дысертацыі. Высокі ўзровень працы захоўваўся ўвесь час. Былі некаторыя моманты спаборніцтваў, як ёсць і ўсюды, дзе працуюць творчыя людзі. Але ніколі не было забароны навуковых напрамкаў.

Зараз такое ёсць, асабліва ў гуманітарных навуках. Ідэалогіі ў працы акадэміі стала больш, чым калі-небудзь раней.

**– Якое месца навукоўца ў грамадстве?**

– Я лічу, што чалавек, калі ён дасягнуў пэўнай вышыні ў навуцы, павінен быць не проста навукоўцам, а перадусім грамадзянінам. На жаль, у нас гэта неяк зацёрта, даўно гаворыцца, што палітыка і навука – гэта розныя рэчы. Падтрымліваць можна, а крытыкаваць – гэта ўжо палітыка. Навукоўцамі авалодала пачуццё страху, двудушша. Вельмі проста зараз людзей трымаць «на кручку». Вядома, што за навуковае званне да заробку даплачваюць грошы. Але для таго каб атрымаць гэтую даплату, акадэмікам і членам-карэспандэнтам трэба штогод прадстаўляць справаздачы аб сваёй працы. Яна разглядаецца напачатку ў акадэміі, а пасля перасылаецца ў адміністрацыю прэзідэнта. Пастанову аб даплаце падпісвае асабіста прэзідэнт і зацвярджае спіс – каму плаціць, а каму не. Гэтыя грошы для нас вельмі шмат значаць, таму ўсе баяцца. У Расіі, для параўнання, акадэмікі атрымліваюць ад дзяржавы штомесяц каля 500 даляраў.

Нядаўна прымалі новы Статут НАН, паводле якога прэзідэнта акадэміі прызначае кіраўнік дзяржавы, а выбіраюць толькі акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў, дырэктараў інстытутаў таксама прызначае прэзідэнт акадэміі. Большасць навукоўцаў былі з гэтым не згодныя. Пра гэта яны мне казалі ў размовах. Галасаванне за статут адбывалася на агульным сходзе Акадэміі навук, усяго 390 чалавек. Яго, відаць, спецыяльна зрабілі адкрытым. Некаторыя зусім не галасавалі. Супраць быў толькі адзін чалавек. Гэта аказаўся я. І мне ад гэтага надта сумна.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# Моўныя працэсы на Пастаўшчыне

(гістарычны агляд)

Моўная сітуацыя на Пастаўшчыне на працягу стагоддзяў вызначалася складанасцю і, можна сказаць, анамальнасцю, бо існавала дыспрапорцыя паміж мовай побытавай і мовай афіцыйнай, мовай карэнных жыхароў краю і мовай меншасцей. Неадэкватная моўная сітуацыя захоўваецца і зараз.

Мова карэнных жыхароў раёна - беларусаў – сфармавалася ў часы Вялікага княства Літоўскага. У XIV стагоддзі яна стала дзяржаўнай і літаратурнай. Асновай старабеларускай мовы, як пісаў Я.Станкевіч, «...сталіся гаворкі паўднёва-полацкія», якія былі пашыраны на тэрыторыях Дзісненскага, Браслаўскага, Дрывенскага і іншых суседніх паветаў. Гэта значыць, што гаворкі насельнікаў Пастаўскага краю паслужылі адной з крыніц фармавання старабеларускай мовы. У той час гутарковая мова супадала з афіцыйнай дзяржаўнай. Як вядома, старажытнабеларуская мова ўжывалася тады не толькі ў афіцыйных дакументах унутры краіны, але і выконвала функцыю міжнародных зносін. Пераважная большасць дароўных лістоў, прывілеяў, грамат, купчых, абавязацельстваў XVI стагоддзя, якія тычацца Пастаўшчыны, пісалася на старабеларускай мове (гл. дакументы ў кнізе «Памяць. Пастаўскі раён»).

Аднак пачынаючы з другой паловы XVI стагоддзя назіраецца працэс раздзялення народнай побытавай мовы і афіцыйнай дзяржаўнай. Пасля Люблінскай вуніі (1569 г.), калі адбылося аб'яднанне Вялікага княства з Каралеўствам Польскім, вышэйшыя саслоўі пачалі паступова пераходзіць на польскую мову, якая стала па сутнасці дзяржаўнай. У XVII стагоддзі дакументы, якія датычацца гісторыі нашага краю, ужо спрэс польскамоўныя: дароўны запіс Юрыя Шорца Пастаўскаму францысканскаму кляштару (1617 г.), фундушавы запіс С. Бяганскага таму ж кляштару (1617 г.), інвентары Паставаў (1628 г.), Дунілавічаў (1640 г.), Задзева (1649 г.). У сферы адукацыі, якая тады толькі пачынала складацца, існавала польскамоўнае навучанне. Так, вядома пра існаванне каталіцкай пачатковай школы ў Дунілавічах, дзейнасць у Паставах калегіума піяраў. У гэты час размежаванне паміж мовай народнай (беларускай) і шляхецкай (польскай) стала найбольш выразным.

Пасля ўключэння Пастаўшчыны ў склад Расійскай імперыі (падзелы Рэчы Паспалітай) моўная сітуацыя змянілася нязначна: па-ранейшаму ў афіцыйнай сферы і адукацыі дамінавала польская мова, хоць паболела расійскіх чыноўнікаў ды пачалі адчыняцца брацкія уніяцкія, а пасля скасавання вуніі – праваслаўныя школкі. Аднак паўстанні 1830-31 і 1863 гадоў прымусілі царскі ўрад праводзіць больш жорсткую русіфікатарскую палітыку. Афіцыйнай мовай паступова станавілася руская, а беларуская заставалася мовай простага люду. Толькі ў другой палове XIX стагоддзя пачала адраджацца беларуская літаратурная мова. Прычым пэўны ўнёсак у гэты працэс зрабіў амаль што наш зямляк паэт Адам Гурыновіч (ён родам з Мядзельшчыны). У сваіх творах ён шырока выкарыстоўваў словы і выразы, якія ўжываліся ў гаворках тутэйшымі жыхарамі. У 1905 годзе на Пастаўшчыне з'явіўся вусны літаратурны твор - верш «Кірха», у якім распавядалася пра бунт каля Лучайскага касцёла. Верш складзены на беларускай мове з пастаўскімі дыялектнымі асаблівасцямі. Беларускае адраджэнне пачатку XX стагоддзя сталася з'явай у культурна-гістарычным развіцці, але зноў жа на тле расійскамоўнай палітыкі.

У часе кайзераўскай акупацыі (1915–1917 гг.) на заходняй частцы Пастаўшчыны (Лынтупшчына, Камайшчына) у якасці афіцыйнай ужываліся нямецкая і польская мовы.

Пасля ўваходжання Пастаўшчыны ў склад Рэчы Паспалітай на нашых землях праводзілася актыўная палітыка паланізацыі мясцовага насельніцтва. Польская мова стала мовай справаводства, асветы, рэлігіі і, часткова, побыту. Беларускія школы забараняліся, прыём з беларускамоўных школ у вышэйшыя навучальныя ўстановы абмяжоўваўся, не дазвалялася карыстацца роднай мовай у дзяржаўных установах. Паскарэнню паланізацыі садзейнічаў польскі дзяржапарат, шавіністычны друк, польскія школы і каталіцкі касцёл. Асаблівая ўвага надавалася моладзі. У Пастаўскім павеце дзейнічалі 168 школ, гімназія ў Паставах і прагімназія ў Лынтупах. Частку вучняў на вакацыях за дзяржаўны кошт вывозілі на экскурсію ў этнічную Польшчу, каб школьнікі напоўніліся польскім духам.

Такая палітыка дала чаканы вынік: да 1939 года на ўсёй Заходняй Беларусі фактычна не засталося беларускіх школ.

Верасень 1939 года рэзка змяніў моўную сітуацыю ў нашым краі. Пасля далучэння раёна да СССР афіцыйнымі мовамі сталі беларуская і руская, бо для ўсталявання савецкай улады ў раён была накіравана група работнікаў з Расіі і Ўсходняй Беларусі, якія ўзначалілі партыйныя, савецкія, праваахоўныя органы; арганізацыі і ўстановы. Толькі з усходніх раёнаў на адказныя пасады на Пастаўшчыну было прыслана 250 чалавек, у школы - 33 чалавекі. Польская мова фактычна была забаронена, адчыняліся пераважна беларускамоўныя школы. Польскую прагімназію ў Лынтупах ператварылі ў беларускую няпоўную сярэднюю школу, гімназію ў Паставах – у педагагічнае вучылішча. Мясцовая газета «Новы шлях» выдавалася на беларускай мове.

Напад Германіі на СССР і акупацыя нямецкімі войскамі нашай зямлі прывялі да ўсталявання новай моўнай палітыкі. Дзяржаўнымі мовамі сталі нямецкая і беларуская: афіцыйныя дакументы выдаваліся на дзвюх мовах. Уся сістэма адукацыі стала беларускамоўнай, зразумела, з абавязковым вывучэннем нямецкай. Выкладанне вялося ў духу нацызму; савецкія і польскія падручнікі спальваліся.

Пасля вызвалення Пастаўскага раёна ад нямецкіх захопнікаў сітуацыя з мовамі зноў карэнным чынам змянілася, на жаль, не на карысць беларусаў. Таксама, як і ў 1939 годзе, для ўсталявання савецкага ладу і калектывізацыі ў раён прыехала група кіруючых работнікаў пераважна з Расіі, якая не ведала мовы мясцовага жыхарства. З гэтай прычыны (і не толькі) беларуская мова пачала выціскацца са справаводства і з некаторых сфер жыцця, у першую чаргу з адукацыі: пастаўскае педагагічнае вучылішча , гарадскія школы і некаторыя школы сельскія паступова перайшлі на рускую мову навучання. Карэнныя жыхары – беларусы – пачалі вывучаць у школах сваю родную мову як замежную.

Палітыка дэнацыяналізацыі і русіфікацыі прывяла да таго, што ў пачатку 80-х гадоў XX стагоддзя беларуская мова аказалася выцісненай амаль з усіх сфер жыцця, захоўваючыся толькі ў беларускамоўных сродках масавай інфармацыі, асяродку свядомай творчай інтэлігенцыі ды беларускіх школах на вёсцы. У сельскай мясцовасці жыхары ў побыце карысталіся трасянкай – руска-беларускай моўнай помессю з дабаўленнем асобных польскіх слоў.

Палітычная лібералізацыя сістэмы ўлады і наступны распад СССР са стварэннем сапраўды незалежнай дзяржавы Рэспублікі Беларусь далі магчымасць беларусам трэці раз за XX стагоддзе рэалізаваць сваё права на дзяржаўнасць роднай мовы. У 90-х гадах працэс беларусізацыі пачаў набіраць імклівую хаду: на мове загаварылі дзяржаўныя чыноўнікі, павялічыліся наклады беларускіх газет і часопісаў, паступова павялічвалася колькасць беларускіх школ і класаў, пачалі пашыраць сваю дзейнасць беларускія арганізацыі і рухі.

Аднак змена палітычнай сітуацыі ў 1994 годзе прывяла да змянення моўнай палітыкі. Русіфікацыя краю пачалася з новым імпэтам, хоць і прыкрываецца гэты працэс дзяржаўнай дактрынай аб роўнасці дзвюх дзяржаўных моў – рускай і беларускай. У сітуацыі, калі абвешчаны дзве дзяржаўныя мовы, відавочна, што адна з іх будзе сапраўды дзяржаўнай, бо гэта будзе мова справаводства, адукацыі, СМІ, а другая стане выконваць дэкаратыўныя функцыі. Такую з'яву мы назіраем па ўсёй краіне і на Пастаўшчыне ў тым ліку. Справаводства вядзецца поўнасцю на рускай мове, у сродках масавай інфармацыі таксама пануе мова нацыянальнай меншасці, у сферы адукацыі няма ні адной беларускамоўнай ВНУ, колькасць беларускіх школ і класаў пастаянна скарачаецца, чыноўнікі стараюцца паўсюдна выступаць выключна па-руску (хоць і з беларускім акцэнтам)...

А паводле дадзеных перапісу 1999 года, у нашым раёне на беларускай мове дома звычайна размаўляюць 81,9 % жыхароў (76,2 адсоткаў беларусаў і 5,7 адсоткаў прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей). Зноў мы бачым сітуацыю, калі моўная палітыка ў раёне і ў краіне праводзіцца не ў інтарэсах большасці, не ў інтарэсах карэнных жыхароў – беларусаў, а на карысць нацыянальнай меншасці і суседняй дзяржавы.

Гістарычны агляд моўных працэсаў у раёне дазваляе зрабіць некалькі высноваў:

а) на працягу тысячагоддзя адбылося дзевяць кардынальных змен у моўнай сітуацыі раёна;

б) за ўвесь разгледжаны перыяд гісторыі выдзяляюцца толькі тры этапы (прычым 2 апошнія вельмі кароткія), калі моўныя працэсы развіваліся ў інтарэсах карэннага насельніцтва – беларусаў, астатні час дамінавалі мовы нацыянальных меншасцей (руская і польская);

в) ад пачатку XVII стагоддзя і да пачатку XXI афіцыйная дзяржаўная мова не супадае з народнай, штодзённай мовай зносін;

г) на працягу амаль усёй гісторыі ўладныя структуры пагардліва ставіліся да мовы карэннага насельніцтва, падтрымліваючы і пашыраючы мовы суседніх народаў і дзяржаў.

Пры захаванні такой палітыкі , у перспектыве можа адбыцца поўная русіфікацыя краю, выцісканне беларускай мовы з ужытку і, як вынік, асіміляцыя, растварэнне беларусаў у рускім этнасе.

**Ігар ПРАКАПОВІЧ**

Фота У. Шланак



# Рыцар святла

**Да 130-годдзя з дня нараджэння мысліцеля Аляксандра Клізоўскага, аўтара «Асноваў светаразумення новай эпохі»**

**Вольга ІПАТАВА**



**Інстытут гуманітарных і экалагічных тэхналогій пры Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій на пашыраным паседжанні секцыі культуралогіі, якое адбылося ў бібліятэцы імя Цёткі, адзначыў 130-годдзе нараджэння нашага земляка, аўтара кнігі «Асновы светаразумення новай эпохі» Аляксандра Іванавіча Клізоўскага.**

**На паседжанні выступілі вядомыя пісьменнікі, мастакі і вучоныя - В.Іпатава, Л.Савік, Н.Шчасная, С.Пыжыкаў, М.Панчышын, В.Білан, Н.Германава, Н. Сакава і інш.**

**Па іхніх словах, трэба вяртаць Беларусі не толькі імёны нашых слынных землякоў, але і тыя ідэі, якія маюць пазітыўнае значэнне для лёсаў чалавецтва. Дырэктар інстытута Я.Фядзюшын назваў аўтара «Асноваў светаадчування новай эпохі» «рыцарам святла» і адзначыў, што гэта першая спроба на Беларусі вяртання імя Клізоўскага, які з цягам часу несумненна зойме належнае яму месца ў гісторыі нашай культуры.**

**Прапануем нашым чытачам артыкул Вольгі Іпатавай аб жыцці і творчасці А.Клізоўскага.**

«Пытанне аб сэнсе жыцця належыць да ліку тых вечна хвалюючых, неспасціжных і ракавых пытанняў, на якія вось ужо некалькі дзесяткаў стагоддзяў хварэюць народы заходняга свету. Пытанне гэтае паўстае, рана ці позна, перад кожным чалавекам, што дасягнуў пэўнага развіцця, ці на пачатку, ці на закаце яго нага жыцця, але паўстае непазбежна. Адкуль мы прыйшлі, куды ідзём, якая мэта існавання чалавека на Зямлі?»

Так пачынае першую кнігу трохтомніка «Асновы светаразумення новай эпохі», – твору, які аказаў значны ўплыў на ўспрыняцце еўрапейскім грамадствам ідэй «Жывой этыкі», найперш, вядома, у Латвіі і Расіі, пазней у Казахстане, Аляксандр Іванавіч Клізоўскі, чыё 130-годдзе прыпала на 15 студзеня 2004 году. Сёлета ж спаўняецца і 70 гадоў з часу выхаду гэтай ягонай першай кнігі, якая апошні раз, наколькі вядома, была перавыдадзеная ў 1997 годзе і чый 10-тысячны, даволі значны па сённяшніх часах наклад разышоўся з незвычайнай хуткасцю.

Між тым імя А. Клізоўскага няма ні ў адным даведніку хаця б больш-менш вядомых людзей, на Беларусі ён вядомы толькі прыхільнікам «Жывой этыкі», і то толькі ў якасці яе, так бы мовіць, інтэрпрэтатара.

А між тым сама біяграфія Аляксандра Іванавіча – гэта красамоўнае сведчанне гатоўнасці жыццём плаціць за свае перакананні, і ў пантэоне змагароў за светлыя ідэалы чалавецтва яму павінна быць адведзенае месца, вартае ягонага жыцця і ягонай творчасці. Апроч таго, ён – наш зямляк, і наш прамы доўг зрабіць усё для таго, каб вярнуць яго імя народу, пра які паэт Пімен Панчанка некалі напісаў так:

*«Мы для братніх народаў*
*надзейныя, верныя донары».*

Донарства – справа пачэсная, але бывае яна часам і небяспечнай, калі ў сілу тых ці іншых прычын нацыя абяскроўліваецца, бо занадта шмат сваіх дзяцей, сваёй маладой крыві страчвае яна на пакручастым шляху, аддае іншым. Кампенсавацца гэтыя страты могуць толькі тым, што нашы землякі ўзбагачаюць агульную ноасферу Зямлі і тым вяртаюць і беларусам, у ліку іншых народаў, светлую жыццядайную энергію і высокі Дух.

Мы настолькі забыліся на сваю ўласную гісторыю і яе звівы, што можам недаўменна пытацца аб тым, чаму А.Клізоўскі – наш зямляк, бо ў ягонай біяграфіі напісана, што нарадзіўся ён у «польскім горадзе Сувалкі на беразе прытока Нёмана».

Між тым Сувалкі, як частка Беласточчыны з этнічным беларускім насельніцтвам, хаця і належалі да Рэчы Паспалітай, але як частка Вялікага княства Літоўскага, якое мела самастойную юрысдыкцыю. Менавіта па гэтай прычыне мы з поўнай упэўненасцю можам гаварыць аб тым, што ліцвінскае паходжанне роду Клізоўскіх найбольш верагодна. Коратка пра гэтыя землі: аддадзеныя пасля раздзелу Рэчы Паспалітай Прусіі, яны ў выніку Тыльзіцкага міру адышлі да Расіі. (Так што да 1874 году, калі там нарадзіўся Клізоўскі, на гэтых землях паўсюдна панавала расійская культура і спрэс былі паўсюдна рускія школы.) У перамовах Савецкай Расіі і Літвы 12. 07. 1920 году яны на кароткі час адышлі да Літвы, але пасля былі вернутыя Польшчы. У часы наступу Чырвонай Арміі Сувалкі былі далучаныя да БССР. А пасля Другой сусветнай вайны, паводле рашэння ўКрымскай канферэнцыі, Беласточчына адышла да Польшчы.

Сёння ўжо не варта палемізаваць, каму павінны былі б належаць тыя ці іншыя землі, а таксама выключна да чыйго народу належаць тыя ці іншыя выдатныя дзеячы культуры ці навукі. Дзяды Клізоўскага – з сялян Гродзенскай вобласці, яны з тых мясцін, дзе гучала беларуская, польская, руская, літоўская мовы. Калі аб ім будуць пісаць і ўзгадваць ва ўсіх краінах, дзе і сёння гучаць гэтыя мовы, калі ягоныя ідэі будуць прынятыя і зразуметыя – чаго ж жадаць болей? Але, на жаль, нам невядома, ці адзначаюць рэрыхаўцы Расіі і Літвы ягоны юбілей. Вядома толькі, што найбольш прапагандуе ягоныя ідэі і памятае аб ім Латвія, дзе ён жыў доўгія гады свайго жыцця, дзе быў арыштаваны і вывезены ў Казахстан.

Ягоны лёс склаўся няпроста, і на прыкладзе ягонай біяграфіі можна гаварыць аб тым, што людзей святла, змагароў за агульначалавечыя (у высокім, касмічным значэнні гэтага слова) ідэалы заўсёды падпільноўваюць цёмныя сутнасці, каб цяжкімі выпрабаваннямі выматваць фізічныя і духоўныя сілы, не даць душы ўзняцца да тых вышыняў, дзе яна можа празраваць горныя вяршыні Духу. Але адначасна і аб тым, што Бог прыходзіць да людзей, не скамянелых ад гардыні ўласных заслуг, тых фарысеяў – кніжнікаў, якія не ўбачылі ў Хрысце высокага пасланніка Духу, а толькі чалавека, які замахнуўся на іхнія скамянелыя догмы. Можа, таму і сям`я, дзе нарадзіўся той, каму суджана было стаць для многіх тысяч людзей першай прыступкай да найвышэйшых касмічных ісцін, з`явіўся на свет у сям`і сціплага ваеннага музыканта Івана Прохаравіча Клізоўскага, які быў трубачом ва уланскім палку, а выйшаўшы ў адстаўку, стаў працаваць акцызным наглядчыкам у Сувалках . Такая ж кар`ера чакала і Аляксандра як адзінага сына з чатырох дзяцей, тым болей што гімназію ён не скончыў менавіта з-за недахопу патрэбных для таго сродкаў. Па гэтай жа прычыне ўжо ў семнаццаць гадоў стаў служыць вольнанаёмнікам ў стралковым палку, а ў дзевятнаццаць гадоў паехаў у Вільню вучыцца ў ваенным вучылішча – туды не трэба было плаціць. Пасля сканчэння вучылішча А.Клізоўскі быў накіраваны на службу ў г. Рыгу. Гэты горад стаў для яго прытулкам і – паступова – ягонай другой радзімай. Тут ён на пачатку 20-х гадоў стаў сябрам гуртка ўсходняй філасофіі, і ад кіраўніка гуртка Уладзіміра Шыбаева атрымаў першую выдадзеную ў Латвіі кнігу М.К. Рэрыха «Шляхі блаславення», а ў 1927 годзе стаў удзельнікам арганізаванага ў Рызе Латвійскага таварыства Рэрыха. Тут ён даслужыўся да чыну капітана, і яго павольнай, але ўсё ж няўхільнай ваеннай кар`еры перашкодзіла першая сусветная вайна і ўсе падзеі, якія перавярнулі і з`іначылі свет. І хаця ўжо на пачатку вайны саракагадовы капітан быў параненым, узяты ў палон, і, прабыўшы там 4 гады і 4 месяцы, вярнуўся ў Рыгу, тады ўжо сталіцу незалежнай Латвіі, яго сапраўднае жыццё, яго духоўны подзвіг быў яшчэ наперадзе. Знешнія ж падзеі жыцця разварочваліся не надта ўдала. Кватэра была разрабаваная, ён быў адзінокі, і перспектыў на паляпшэнне не было аніякіх. У сваёй аўтабіяграфіі ён піша пра гэта так: «На пятым дзесятку давялося пачынаць жыццё спачатку. А паколькі я не ведаў дзяржаўнай мовы, дык не мог атрымаць месца, і давялося ўзяцца за падзённую працу. Неўзабаве я зрабіўся маляром і некалькі гадоў займаўся малярнай працай. Пасля я ажаніўся. У маёй жонкі была нерухомая маёмасць па вул. Кулдзігас, 47, якая складалася з саду і некалькіх невялікіх старых драўляных дамкоў. Гэтая маёмасць была разбураная вайной, запушчаная і не прыносіла ніякага даходу».

Ягоная жонка, прыбалтыйская немка Алма Рыбэ, была старэйшая за яго на 9 гадоў, бяздзетная. Лёс распарадзіўся так, што яна перажыла свайго мужа на шэсць гадоў і змагла ў цяжкі час выратаваць іхнюю прыёмную дачку Глафіру, паехаўшы разам з ёю ў добраахвотнае выгнанне ў Брэслаў, не чакаючы новага надыходу Чырвонай Арміі, паколькі добра ведала, што чакае сям`ю «ворага радзімы» на савецкай тэрыторыі, якою Латвія зноў стала ў 1944 годзе. Латвійскія «рэрыхаўцы» пішуць пра яе як пра спакойную, працавітую жанчыну, якая цярпліва несла сваю долю іхняга агульнага жыццёвага цяжару.

Застаецца здзіўляцца, як гэтыя былыя афіцэр, маляр, які ўласнымі сіламі адбудоўваў і рамантаваў старыя дамкі, ажно пакуль яны не былі прыведзены ў большменш прыстойныя від і нават сталі прыносіць прыбытак, на які і жыла сціплая сям`я Клізоўскіх., як мог ён знаходзіць час для таго, каб пасля пякельнай працы, што доўжылася па 14–15 гадзін у суткі, прыходзіць на заняткі Таварыства, чытаць усходнюю літаратуру – а гэта філасоф Свамі Вівекананда, жамчужына індыйскай эстэтыкі Бхагават-Гіта, творы А. Блавацкай і многае іншае – і спрабаваць разабрацца ў складанейшых пытаннях быцця.

Яшчэ ў 1931 годзе Клізоўскі ўпершыню адзначыў у сваёй аўтабіяграфіі : «Перапісваюся з Інстытутам гімалайскіх даследаванняў», а ў 1934 годзе ўжо выдаў першую кнігу «Асновы светаразумення новай эпохі», у аснову якой паклаў вучэнне Хрыста, дапоўненае філасофіяй « Агні–Ёгі» і ўсходнімі вучэннямі. Разам з тым гэта быў погляд сучаснага чалавека на сучасны стан грамадства – яго філасофію, палітыку, этыку, эстэтыку, ягоную перспектыву. І ўсё гэта выкладзена простай, яснай, зразумелай нават самым недасведчаным мовай: « Хіба сучаснае жыццё не ёсць суцэльнае вар`яцтва?... Хіба не вар`яцтва – адмаўленне ўсяго духоўнага і ўзвышанага і прызнанне матэрыяльных дабротаў за адзіную каштоўнасць, у выніку чаго – шалёная пагоня за нажывай, дзікая канкурэнцыя і суперніцтва? Хіба не вар`яцтва – разм0вы аб раззбраенні і аб міры і патаемная падрыхтоўка да новай, яшчэ больш жахлівай і разбуральнай вайны, альбо біржавыя спекуляцыі, якія абагачаюць альбо збядняюць у некалькі хвілін многія сотні і тысячы людзей, альбо спальванне і выкіданне ў моры багатага ўраджаю, альбо забіццё і зарыванне ў зямлю сотняў тысяч галоў скаціны, каб не паніжаць цэны на прадукцыю? Хіба не вар`яцтва – прага задавальненняў у што б там ні было, задавальненняў нізкіх, пошлых, грубых, альбо захапленне рэкордамі дурнымі, бессэнсоўнымі, нікому не патрэбнымі?»

Сёння, праз семдзесят гадоў пасля напісання гэтай главы, якая называецца «Сучасны стан свету», мы можам канстатаваць, што стан чалавечага грамадства не палепшыўся. Наадварот – вар`яцтва нашай цывілізацыі, яе тупіковасць і неадпаведнасць усім касмічным законам Быцця робіцца відавочнай для мільёнаў людзей, якія, аднак, не бачаць ніякага выйсця ні для сябе асабіста, ні для самога чалавецтва. Нездарма лаўрэат Нобелеўскай прэміі Альбер Камю ў сваёй прамове з нагоды атрымання гэтай прэміі ў 1958 годзе таксама, як і Клізоўскі, параўноўваў чалавецтва з караблём. Розніца толькі ў тым, што гэты карабель, па Камю, ідзе ў цемры сярод вялізных хваляў, і ніхто з ягоных пасажыраў, уключаючы і капітана, не ведае ні шляху, ні гавані. А Клізоўскі прама піша аб тым, што гэты карабель тоне, прычым усё больш імкліва.

Рукапіс першай кнігі А. Клізоўскі пасылае Алене Іванаўне Рэрых. Першы водгук яе вядомы па лісце да Феліксa Лукіна ад 13 студзеня 1934 г., дзе яна піша: «...Шчаслівыя былі атрымаць работы па Вучэнню, артыкул аб Прыгажосці і першыя главы працы А. Кліз (оўскага). Такія працы надзвычай карысныя, і, калі б з`явілася магчымасць іх надрукаваць, варта было б гэта зрабіць... Хацелася б болей ведаць аб аўтарах гэтых цудоўных і карысных прац».

Самому А. Клізоўскаму А. Рэрых адказала 8 лютага 1934 году. Гэта вялікі ліст з канкрэтнымі заўвагамі наконт рукапісу. Але самае галоўнае – там ёсць адабрэнне ягонай працы: «...выдатная праца вельмі парадавала нас. Гэта іменна тое, што зараз так неадкладна патрэбна, бо належыць усімі сіламі будзіць свядомасць, што пагрузла ў затхлых забабонах і падаўленая жахамі грознага часу».

Дарэчы, гэта найбольш частае ў ейных лістах азначэнне: «Пагрозлівы Час». Як і адчуванне, што трэба напружваць усе сілы дзеля таго, каб апярэдзіць уздзеянне сілаў Цемры.

Працяг на стар. 8

Сяргей ПАТАРАНСКІ

# Віленскі перыяд

### Вільня нябёсная

Мне сьнілася Вільня нябёснай, як зорка,
і звонкасьць званоў адлюстраваных звонка
ў нябёсах лунала кунегай спачыннай,
і ў зяньні анёлы праходзілі чынна...

І мроіў тады я ў здуменьнях дзівосных,
што, пэўна, той сон мне прароцтвам паўсталы,
Як мара дзяцінства ў мудрасьці сталай,
як сонечны зьніч паміж цемразі гойстрай.

* * *

Ня ўсе шляхі вядуць у Рым.
Галоўны шлях душы маёй да Вільні.
Што трэці Рым, што першы - марны дым...
Мне Вільня - Рым адзіны аж да стыні.

Хай вечна сварацца, як злыдні, сьвятары
за яву і ўладарства над сумленьнем,
я ведаю, што Рымы было тры,
а Вільня ў нас адна, як Бог нязьменны.

І хай сталіцаў будзе міліён,
ды Вільня - для душы маёй сталіца,
як Бог, што ведамы душы спакон,
як існасьці маёй крыніца.

### Эцюд

Над сьнегам дамы і машыны,
пад снегам спачыла зямля.
Мяцеліца, быццам зьмяя,
паўзе трапна, коўска і чынна.

Пагоркі сьнягі дыванныя
пакрылі зьвіднёна знагла.
Убралася Восень-Вільня
ўва ўборы святога сьвятла.
Нібыта сама каралеўна
саткала спакою абрус.
Зімы ціша вокамгненна,
а далей - навек Беларусь! ..

### На Росах

*(Могілкі на вуліцы Росу (Славянскай) у Вільні - сьвятыня Беларускага народа, клады інтэлектуальнай эліты XIX-XX стст.)*

Калі забудзем гэтыя магілы,
то і ня вартыя свайго жыцьця.
Жыцьцёвы подых тых каменьняў стылых,
здаецца, увесь сьвет працяў.

І ён дае нам розум і адвагу
на будучнасьць, на душ уласных плён,
які паўстаў ня тленнасьцю, а знакам
і абудзіў зьбытненьня марны сон.

І покуль ёсьць дзядовыя магілы,
то ёсьць і мы на гэтае зямлі,
і ёсьць жыцьцёвасьць праўды, нашы сілы
цераз якія справы прарасьлі.

### Санэт

На вуліцы кармэлітаў
блукае твой зорны цень, -
душа Бога напаўзабытая,
паўстаўшая зоркай нібыта,
як шчасны вясновы дзень,

між дзён, дзе блукае восень,
дзе толькі між храмаў калёр.
Ты мар, як сон, запозьненная,
ўскрываеш нязнаны прастор,
аб той, што па лісьці босай

йшла безтурботнай дзяўчынкай,
як зараз па бруку ідзеш,
тым вобразам зорнай Вільні,
які ува мне жыве.

### Званы Сьвятой Ганны

Адшукай свой дух Гасподны
між муроў Сьвятое Ганны,
там, дзе Беларусі Годнасьць
узвышоная старана,

там, дзе каласіцца звоннасьць
нашай Славы і патольнасьць
справаў, што Гасподным роўны,
найпразорная воля,

і жыве крыніца шчасьця
і сьвятоўнага адхланьня
Беларусі зорнай мацер,
як званы Сьвятое Ганны.

### Роздум ля Вежы Гедыміна

Сяджу ля Вежы Гедыміна,
як патрыярх пазабыты ўлады.
Ніхто мне тут, нажаль, ня рады.
Адно самота успамінаў
шчымліца ў сэрцы недарэчна, -
ўсё можа быць у сьвеце здрадным.
Паўстаць у сьвеце чалавечым
любая можа здрада злая,
любы падман найвыкшталцоны,
але ня зьменіць сьцен людская
лахва і ўладаў забабоны...

І покуль сьценам тым маўклівым
стаяць да судных дзён Сусьвету,
то не зьмяніць, як сьцены гэты
душы лягендаю хлуслівай...

Бо ўсім вядомы Гедымін -
мой беларускі дзед ліцьвін!

### Насьледваньне Караткевічу

На Беларусі Бог жыве,
І Ён жыве у сьценах Вострай Брамы.
Тут вее Дух Гасподны і абраны,
вышэйшы за тлумленьнем здрузлы сьвет.

Быць можа хтось ня бачыць Рай,
што паўстае на белязьне абшарнай
маёй краіны, што паўстала марай
ці пупавінай сьвету?.. Хай!

Я ведаю, Х Т О тут жыве.
І Бог, напэўна, сваё мейсца знае,
дзе чад народаў прагне небакраю
Яго, дый мой народ, як сьвет

панад Сусьветам, быццам Бог,
у зорнае купелі Вострай Брамы
свой Дух сплаціў жыцьцём абраных
пракрокаў, праўдаў і дарог.

* * *

Я ў кожным сьненьні бачу нашу Вільню -
без акупацыяў дый іншай бруднай трасцы.
Свабодны горад, бы ў чароўнай казцы,
паўстаў у гудзе звонаў волі сынам.

У рэчаіснасьці ж пад сьнегам сьпіць мой горад
любімы, у зіме, як бес, зьляднелы, -
пад акупацыяй не танкаў азьвэрэлых,
а бездухоўнасьці дзікунскай, як Гамора.

І покуль не адкрыем Духа Браму,
як Вастрабрамскай, будзе век дакорам
пагляд тутэйшых храмаў бездакорных,
і літасьці ня мець нам Божай мамы.

# Рыцар святла

Працяг. Пачатак на стар. 7

Так пачалася перапіска сціплага, ніяк не адзначанага на гарызонце тагачаснага грамадства чалавека з сям`ёй Рэрыхаў, і за сем гадоў, да самага пачатку Другой сусветнай вайны, калі перапіска абарвалася, такіх лістоў набралася нямала. Захаваліся, аднак, копіі толькі 34 лістоў ад А.І. Рэрых і 4 – ад Мікалая Канстанцінавіча.

Менавіта гэтыя лісты і захапленне Аляксандра Клізоўскага велізарнай падзвіжніцкай дзейнасцю А.Рэрых сталі штуршком для таго, каб другі свой том, які выйшаў з друку ў 1936 годзе, ён прысвяціў менавіта ёй, якая «...натхняла на працу, накіроўваючы думку, будзіла свядомасць і шчодра дзялілася сваімі пазнаннямі з галіны вышэйшых ведаў». Трэці том выйшаў праз два гады, у 1938 годзе, а праз год пачалася Другая сусветная вайна, у саракавым годзе Латвію заняла Чырвоная Армія, і гэта моцна ўдарыла па сям`і Клізоўскіх: дом, які Аляксандр Іванавіч пабудаваў узамен тых колішніх, пазней зламаных старых дамкоў, пабудаваў уласнымі сіламі, уклаўшы туды ўсё, што змог сабраць – гэты дом быў нацыяналізаваны. Мала гэтага – за ім быў учынены нагляд. НКВД збірала матэрыялы на яго як на былога царскага афіцэра. У архівах КДБ захаваўся запіс яшчэ ад 1937 году ( значыць, збіралі тыя «кампраматы задоўга перад заняццем гэтай балтыйскай краіны), што ён нібыта удзельнік нелегальнай арганізацыі рускіх манархістаў.

Між тым сам Клізоўскі сустрэў Чырвоную Армію вельмі прыхільна. Ён верыў, што ідэі камунізму пераменяць свет і што ажыццяўляць іх патрэбна з дапамогай Жывой этыкі і дзякуючы працам Рэрыхаў. Нягледзячы на тое, што больш асцярожныя сябры раілі яму схавацца, не паказваючыся ні на якія вечары і імпрэзы, ён, наадварот, збіраўся падарыць свае кнігі рускаму пасольству, спадзеючыся на тое, што ягоныя ідэі спатрэбяцца новаму, не абцяжаранаму ранейшымі грахамі грамадству, а таксама стаў праяўляць актыўнасць і ў іншых сферах жыцця, цвёрда ўпэўнены ў тым, што ён ні ў чым не вінаваты і баяцца яму няма чаго.

Арыштаваны ён быў у дзень пачатку вайны супраць СССР – менавіта 22 чэрвеня 1941 году. Яму было 67 гадоў.

Цяпер ужо ведаючы сярэднявечныя метады допытаў, дзікае беззаконне і норавы савецкіх канцлагераў, можна толькі з жахам уявіць, што давялося перажыць старому слабому чалавеку ў Рыжскім цэнтрале, на этапе ў турму № 22 г. Петрапаўлаўска ў Казахстане і ў самой гэтай турме, дзе 29 красавіка 1942 году ён быў расстраляны разам з іншымі вязнямі, самым вядомым з якіх быў былы прэзідэнт Латвіі Карліс Ульманіс.

Дзесяцігоддзі, што прайшлі з таго часу, не пахавалі пад сабою справы і воблік Аляксандра Клізоўскага. Наадварот – ягоныя кнігі робяцца ўсё больш запатрабаванымі, праўда, не сярод шырокай чытацкай публікі, а сярод той, даволі ўсё ж нешматлікай часткі нашага грамадства, якая цікавіцца ідэямі Рэрыхаў і іхняй «Жывой этыкай» альбо шукае сцяжыны да духоўнасці і пазней крочыць па шляху хрысціянства. Ён увайшоў у тое кола чытання, якое робіцца свайго роду «азбукай для пачынальнікаў», для тых, каму невыносная цемра, што ўсё болей ахутвае нашу Зямлю. Канешне, гэтая яго роля як «азбукі для пачынальнікаў» робіць яго як бы своеасаблівай прыступкай, перадолеўшы якую чалавек працягвае самастойны шлях, і гэты шлях не абавязкова заканчваецца прыхільнасцю да саміх ідэй «Жывой этыкі». Я не раз назірала гэты парадокс, а таксама і не надта пачцівыя адносіны да кніг А.Клізоўскага сярод тых, хто пачынаў менавіта з ягоных «Асноваў светаадчування Жывой Этыкі». Крытыкуюць найбольш яго так бы мовіць, крытыку некаторых палажэнняў хрысціянства (але не самога хрысціянства, бо многія самыя палымяныя старонкі яго кніг прысвечаны менавіта Хрысту і ягонаму вучэнню!), напрыклад, такую:

«Хрысціянскае рэлігійнае светаадчуванне не мае такіх дакладных і пэўных палажэнняў аб Асноўнай Рэальнасці, якую маюць усходнія народы. Хрысціянскія прадстаўленні аб Богу ўвогуле заблытаныя і няясныя. Меркаванні хрысціянскіх тэолагаў, што рэлігійнае светабачанне хрысціян, як самае позняе, ёсць самае правільнае - вынік памылковага ўяўлення. Яно магло б быць такім, калі б Вучэнне Хрыста было правільна зразуметае і не было скажона». (стар.186). Альбо ягоная падтрымка закона кармічнага ўздаяння за грахі, якое адно дыктуе, каму нарадзіцца прыгожым і таленавітым, а каму – звыродлівым і няшчасным, альбо – трактоўка Тонкага Свету, «дактрына сямі глобусаў» і іншае..

...Гэты артыкул не ставіць сваёй задачай увогуле у якой бы то ні было форме палемізаваць з ідэямі А. Клізоўскага альбо папулярызаваць усё, што б ён ні напісаў. Галоўнае – гэта тое, што наш зямляк з Гродзеншчыны гаварыў пра сучасны стан Зямлі і неабходнасць добрых спраў і думак для яе ратавання, а таксама перамен у светапоглядах чалавецтва, якое стаіць перад прамой пагрозай самазнішчэння.

Тут і ёсць той пункт гледжання, з якім, здаецца, ніхто не можа не пагадзіцца. Апроч таго, той дар красамоўнага пісьма, які быў несумненна дадзены яму звыш, з тых горных высяў, адкуль ідуць да нас іскрынкі святла і прадбачання, робіць творы А. Клізоўскага значнымі па мастацкай сіле ўздзеяння, па таленту выказвання самых складаных думак.

Таму ёсць усе падставы для таго, каб, нарэшце, мы, беларусы, болей ведалі пра гэтага незвычайнага чалавека, пра лёс і апантанасць ідэямі дабрыні і касмічнай узнёсласці таго, каго нешматлікія калегі і сябры з Рыгі яшчэ ў часы сумеснай працы невыпадкова з захапленнем называлі «Рыцарам святла».

# Вы жадаеце сьмерці БЕЛАРУСІ?..

***Думкамі пра маладую беларускую літаратуру дзеліцца паэт, перакладчык, педагог Андрэй Хадановіч у гутарцы з маладзейшым паэтам Глебам Лабадзенкам***




**– Андрэю, апішы, калі ласка, свайго чытача.**

– Адно маё інтэрвію называлася «Пішу для адукаваных вар'ятаў». Майму ідэальнаму чытачу не пашкодзіла б вышэйшая гуманітарная адукацыя й проста рэдкая сёньня здольнасьць чытаць і атрымліваць асалоду ад тэксту. Зь іншага боку, мяне нядаўна назвалі «апосталам паэтычнага фастфуду», а значыць – правільнай дарогай іду. Можа, хутка й маіх чытачоў стане, як наведнікаў «Макдональдсаў».

**– Ты часта бярэш удзел у розных імпрэзах, вечарынах, чытаньнях... Ці не пачынаеш у стварэньні тэкстаў арыентавацца на чытача, адштурхоўвацца ад чытацкай рэакцыі?**

– Такая небясьпека ёсьць. Але актор, творца, павінен часам пераапранацца й граць розныя ролі. Галоўнае, каб кожнага разу гэтая роля гралася гранічна шчыра, у максымальным напружаньні, на якое ты здатны.

**– Добра, свайго чытача ты ведаеш. Але чым можна зацікавіць большасьць, якая п'е піва ды кажа «тру»?**

– Магчыма, ёсьць слухачы, якім не захочацца нічога чытаць. Ёсьць больш удзячны сродак – гітара. Калі да твайго тэксту дадаецца мэлёдыя, пераважна чужая, якая парадыйна пазнаецца, яна выклікае выбухі рогату. Асабліва зь ня тым тэкстам і ня тым сэнсам. Да прыкладу, «пулюганістыя» хлапцы з прыемнасьцю пазнавалі «Yellow submarime» з тэкстам прыпеву: «Бел-чырвона-белы трактар патрыёт разам з намі крочыць у паход...» Думаю, што бел-чырвона-белы трактар здольны «прабіць» мазгі любога навучэнца. Варта, каб побач не стаяў настаўнік літаратуры, які будзе баяцца словаў «бел-чырвона-белы».

**– Уладзімер Арлоў распавядаў, што пад час ягоных шматлікіх вандровак па Беларусі здаралася, што ў сярэдзіне імпрэзы заляталі дырэктаркі школаў, міліцыя... Здаралася такое?**

– У Воршы, у музэі Караткевіча нядаўна зьмянілася кіраўніцтва, скажам мякка, на меньш лаяльнае да Беларушчыны. Мастак Алесь Пушкін запрасіў мяне пачытаць вершы на адкрыцьці ягонай выставы. І, я так разумею, між ім і кіраўніцтвам музэю была дамоўленасьць, што ён абыдзецца без пэрфомэнсаў, будзе ў «тройцы» ды гальштуку-матыльку. Але ж пра іншых удзельнікаў нічога не казалася. Таму ў самы незаплянаваны начальствам момант я выскачыў зь гітарай у вопратцы балахоўца - з ваеннымі нашыўкамі, мілітарнаю шапкай і бел-чырвона-белай стужачкай на ёй. Твары начальства зьбялелі. І калі мы з Пушкіным сталі ў пазіцыю «рабочы і калхозьніца» і ён голасна закрычаў «Жыве Беларусь!», супрацоўніца канчаткова спалатнела і залямантавала: «Ну не так же!» На маё публічнае запытаньне, ці жадае яна сьмерці Беларусі, адказу не было...



**– Мне вядома, што ты быў у журы некалькіх рэспубліканскіх конкурсаў маладых літаратараў. Можаш зрабіць кароткі агляд нашай наймаладзейшай літаратуры?**

– Калі ў некалькіх словах, то гэта самае прыемнае і самае яскравае, што ёсьць у беларускай літаратуры за ўвесь час яе існаваньня. Упершыню мы маем пакаленьне, абсалюта не зашоранае ні правінцыйнымі, ні ідэалягічнымі абмежаваньнямі. Пакаленьне, якое чытае і творыць па-беларуску не таму, што гэта годна патрыёта, а таму, што гэта ім эстэтычна цікава, цікава па-мастацку. Гэта пакаленьне, якое ня трэба пераконваць нешта рабіць, якое арганічна жывое і не «адмарожанае». Гэта людзі, якія праўджваюць на трываласьць межы мастацтва і мастацкага, паэзіі і паэтычнага.

**– Наколькі дэпалітызаваныя вершы і само пакаленьне маладых літаратараў?**

– Лёзунг «дэпалітызаванае пакаленьне», ужыты «Нашай Нівай» што да маладых літаратараў, уводзіць у зман. Бо няма ніякага дэпалітызаванага пакаленьня. Пры ўсёй сёньняшняй навіні, прасунутасьці дый эстэтычных «прымамбасах», сам факт карыстаньня беларускай мовай – ёсьць фактам палітычным, нават калі паэт не ўкладае ў гэта палітычнага сэнсу, то ўкладзе чытач, слухач... Калі, скажам, я карыстаюся беларускаю ў транспарце, кожны зьвяртае ўвагу. Не адмоўна - найчасьцей бабульку прабівае на сьлязу – «ой малайцы, дзетачкі...» А беларуская зь мяккімі знакамі толькі патройвае палітызаванасьць мовы. Але мае мяккія знакі – каб чытач адчуваў адрозьненьне беларускага «сьнегу» ад расейскага «снега». Ніякай палітыкі. Таму творца, які выступае па-беларуску, выходзячы па-за рамкі белмоўнага чытача, спрабуе чымсьці «купіць», падкупіць чытача, зацягнуць яго на сваю тэрыторыю. Але палітыка – не ў мітынговых закліках. Я хуччэй параўнаў бы гэта з таленавітаю стратэгіяй рэклямы. Мы павінны ствараць моцныя, беларускія, мастацкія слёганы, якія будуць западаць у падсьвядомасьць. І, спрацоўваючы ў падсьвядомасьці, яны будуць правакаваць пакупнікоў, патрапіўшы ў далёкую ад дасканаласьці сёньняшнюю кніжную краму, знаходзіць там беларускія палічкі з кніжкамі.

**– Але, Андрэю, калі вярнуцца да пытаньня пра сытуацыю зь літаратурай па-за кальцавой дарогаю. Як там?..**

– А па-за кальцавой дарогай «трэба бываць часьцей». Я для сябе пастанавіў не адмаўляцца ад ніводнага запрашэньня выехаць кудысьці, каб трапляць ва ўнівэрсытэты, школы й г.д. – мінімальныя асяродкі, зацікаўленыя ў тым, каб нешта пачуць. У гэтым сэнсе – разгледжу ўсе прапановы і паспрабую прапанаваць гэтай публіцы нешта цікавае.

**– У чым пэрыфэрыйная сытуацыя розьніцца ад сталічнай?**

– Мы тут прасунутыя-абазнаныя, але й публіка нашая разбэшчаная – ёй ёсьць з чаго выбіраць. А вось у Мар'інай Горцы ці Клецку слухачы, канечне, значна менш падрыхтаваныя, затое будуць слухаць абсалютна ўсё. І толькі ад таленту паэта залежыць, ці здолее ён задурыць ім галаву.

**– Ты – як выкладчык БДУ і Беларускага ліцэю – пэўна можаш сказаць, што чытае сёньняшняя моладзь па-за праграмаю...**

– Я не стамляюся зьдзіўляцца галоўнаму: публіка чытае – у прынцыпе. І паранейшаму знаходзіць для сябе кайф у гэтым працэсе, які сёй-той лічыць працэсам, што канае – працэсам, які не вытрымлівае канкурэнцыі, скажам, з інтэрнэтам. Але літаратура – такая «паскудная», у добрым сэнсе, штука, якая лёгка прыстасоўваецца да партызанскіх умоваў. Вынайшлі інтэрнэт – калі ласка, літаратары – яны ж і гэтую сусьветную сьметніцу запалоняць, яны і там палезуць з усіх шчылінаў-сайтаў. Толькі не стамляйся «качаць», эканомячы грошы і не купляючы кніжкі. Але сам факт ненабываньня кніжак прыкры: наш чытач не дасьпеў да нейкага стану карпаратыўнай сьвядомасьці. Бо самы дзейсны спосаб падтрымаць творчы рух – прыйсьці і выкласьці сваё кроўнае за кніжку, дыск ці касэту. У нас жа працуе прынцып «Если денег нету – стырь себе кассету», які нават прапагандуецца айчыннай тэлевізіяй...

**– Калі ў цябе выйшла дэбютная кніжка па-ўкраінску, у інтэрвію прагучэла, што беларускай няма, бо ты сам палец аб палец ня ўдарыў дзеля гэтага. Цяперака ёсьць беларуская, на падыходзе – яшчэ адна. Кніжкамі задаволены?**

– Найлепшая, вядома, тая, якая яшчэ ня выйшла. Хочацца спадзявацца, што я яшчэ здольны кожнага разу, робячы новы тэкст, зьдзіўляць найперш сябе.

**– Я ведаю, што па-за БДУ і Гуманітарным ліцэям ты вядзеш «Перакладчыцкую майстэрню» пры Беларускім калегіюме...**

– Так – ёй ужо 1,5 гады. Раней перакладчыкі зьяўляліся ў нас насуперак усім неспрыяльным умовам – у Беларусі не было ніводнай установы, якая рыхтавала б прафэсійных перакладчыкаў. Бо перакладчык – гэта не толькі талент і вялікае жаданьне. Гэта, з аднаго боку, глыбокае веданьне замежнай мовы, з другога боку – глыбокая абазнанасьць у той ці іншай культуры. Ёсьць Лінгвістычны ўнівэрсытэт, але, даючы веданьне мовы, ён ніколі не даваў літаратурнага кантэксту. У выніку, зьяўляліся такія перакладчыцкія ляпы, як «кароль Геродас» замест «цара Ірада» і г.д. Філфак БДУ традыцыйна даваў веды па літаратуры, але ўзровень веданьня замежнай мовы не дазваляў гэтым карыстацца. Наш праект «Перакладчыцкая майстэрня» таксама ў нечым дылетанцкі: я займаюся ім з разуменьня таго, што нехта павінен тут і цяпер гэтым займацца. З маімі калегамі мы спрабуем шліфаваць спэцыфічныя навыкі мастацкага перакладу. Майстэрня балянсуе на мяжы тэорыі і практыкі.

**– Які плён майстэрні?**

– Друкаваны орган Беларускага калегіюму – часопіс «Паміж» – дае пэўныя тэксты навучэнцаў майстэрні. Такія часопісы, як «Дзеяслоў», таксама адкрытыя для цікавых вынікаў нашых праектаў.

**– Каго вы перакладаеце?**

– У калядным нумары «Нашай Нівы» выйшла падборка, як на мяне, вельмі складаных для перакладу вершаў Бродзкага. Трэці нумар «Паміж» даў эсэі Юрка Прахаські – новага лідэра постандруховічаўскай украінскай літаратуры. Лешак Калакоўскі, які зьявіўся там жа, таксама ёсьць для мяне прадметам гонару. Вольга Такарчук альбо чэская паэзія з адпаведнага нумару «ARCHE» - вось плён. З сусьветных імёнаў – ідзе праца над «Пенай дзён» Барыса Віяна...

**– А нас перакладаюць гэтак жа актыўна? З апошняга, вядомага мне, – Барадулін па-польску, Алексіевіч па-француску ды той жа Хадановіч па-ўкраінску. Як сытуацыя па-за «кальцавой дарогай» Беларусі?**

– Нас перакладаюць і літоўцы, і ўкраінцы, і палякі. У Польшчы працуе Міжнародная перакладчыцкая майстэрня з цэнтрам у Варшаве. Праз кантакты нашых маладых перакладчыкаў са сваімі польскімі калегамі паўстаў праект кнігі беларускай прозы, куды ўвойдуць прадстаўнікі актуальнай літаратуры – ад Уладзімера Арлова да Ільлі Сіна зь ягонай «Нобэлеўскай лекцыяй».

**– Хочаш сказаць, што ўсё, старэйшае ад Арлова, ужо не актуальнае?..**

– Ёсьць розныя катэгорыі чытачоў – і перакладчыкаў... Таму ж Чэславу Сэнюху, перакладчыку «Новай зямлі» на польскую, ужо ня так лёгка перакладаць аўтараў «Nihil'ю». Затое ён пераклаў «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Шкада, што для польскіх кнігавыдаўцоў гэта, відаць, неактуальна...

**– Пасьля сваіх літаратурных вандровак за мяжу ты заўважыў, што на Беларусі «малады літаратар» – гэта той, каму да 50 гадоў. Ты – «малады літаратар»? І хто – «малады літаратар»?**

– Я нядаўна пачытаў анталёгію «Сучасная беларуская проза». З анатацыі вынікае, што ў кнізе прадстаўленыя як клясыкі, кшталту Вячаслава Адамчыка і Янкі Брыля, так і малазнаныя маладыя аўтары, як Лявон Вольскі. Я ня ведаю, колькі шанцаў меў бы Максім Багдановіч сёньня прабіцца не ў маладыя літаратары і выйсьці з кола пачаткоўцаў. Так напраўду, Арцюр Рэмбо, які кінуў пісаць вершы ў 19, ужо ў 17 ня быў пачаткоўцам. Унікум. У панятках «малады і немалады літаратар» мала агульнага зь біяграфічным векам.

**– А як, скажам, дзялы ў добра вядомай табе Украіне?**

– Пад час адной з вандровак па Украіне, у якой былі многія ўкраінскія пісьменьнікі, я запытаўся ў старшыні іхняга Саюзу пісьменьнікаў: «Чаму сярод вас няма ніводнага маладога?..» Наймаладзейшы быў я – госьць зь Беларусі, а наступны быў гадоў на 25 старэйшы ад мяне! Старшыня сказаў: «Мы ўсіх запрашаем... Але яны занятыя, яны робяць бізнэс, кормяць сем'і...» Мабыць, немаладыя літаратары – гэта тыя, хто ня мае сем'яў, каму ня трэба рабіць бізнэс. Як тая птушка Божая...

**– Можа, дасі які верш з будучай кнігі?**

– Калі ласка, зь нізкі санэтаў:

### Трамвай «Жаданьне»

*Остановите, вагоновожатый...*
*М.Гумілёў*

Ты пустазельлем у цяпліцы вырас
і хутка забадаў усіх, бадай...
І рвецца з вуснаў нецэнзурны выраз,
хоць іншаземцу чуецца: «must die!»

Нясеш па сьвеце небясьпечны вірус:
замураваны ў бомбе самурай,
ляціш зь нябёсаў і сягаеш віру зь
небеларускім воклічам «банзай!»

Нібы забыты лірыкамі топас,
блукаеш поначы, п'яны аўтобус,
ці карабель – у акіяне слоў...

Ты із слупамі загуляўся ў кеглі
і йдзеш на дно, а пасажыры зьбеглі,
як толькі флейту ўзяў пацукалоў.

# Пётра СЕРГІЕВІЧ: Творчы лёс мастака

**Арсень ЛІС**

Працяг. Пачатак у № 23, № 1

Снежань 1934-га, самы пачатак 1935 года былі падзейнымі ў асабістым мастакоўскім жыцці Пятра Сергіевіча.

Уступіўшы ў Саюз вольных мастакоў, ён без мала два гады дзейсна рыхтаваўся да персанальнай выстаўкі, і вось наступіў яе час. Нататкавы водгук таленавітага заходнебеларускага паэта Хведара Ільляшэвіча, змешчаны ў газеце «Родны край» ад 11.01.1936 г., і праз гады досыць непасрэдна даносіць уражанне ад той культурніцкай падзеі ў жыцці не толькі аднаго беларускага мастака. «8 студзеня, – пісаў рэцэнзент, – зачынілася выстаўка абразоў беларускага мастака Пётры Сергіевіча. Гэта была першая самастойная выстаўка, абдымаючая сабой 5 гадоў мастацкай працы (1930–35). Выстаўка рэтраспектыўная, якая дае прасачыць творчую эвалюцыю маладога мастака. Сабрана было каля 50 абразоў, маляваных алейнымі фарбамі, і 40 рысаваных партрэтаў. Амаль палова твораў была гр. Сергіевічам пазычана ад розных асобаў, якія ў яго іх купілі раней. Такім чынам, колькасна выстаўка прадстаўлялася салідна. Наўрад ці хто і з старэйшых мог бы выказацца такой мастацкай прадукцыяй. У двух вялікіх пакоях у доме № 7 пры вул. Міцкевіча ўсе сцены былі завешаны вельмі густоўна абразамі (карцінамі. - **А.Л.**). Наогул, арганізацыя выстаўкі была добрая і заслуга ў гэтым у вялікай меры належыць гр. Ч.Будзьку, які самаахвярна памагаў мастаку».

У цэлым Хв.Ільляшэвічам дадзена досыць дакладнае агульнае ўяўленне аб першым этапе творчасці Пятра Сергіевіча, абазначаны прыярытэты. Акрамя жанрава-відавога агляду жывапісных твораў ім бегла згадваецца кніжная графіка мастака, афорленыя Сергіевічам паэтычныя зборнікі Міхася Машары «На прадвесьні», «На сонечны бераг», станковая графіка, рэпрадуцыраваная ў часопісах «Нёман», «Студэнцкая думка», «Калоссе». Коратка сказана і аб насценным жывапісе П.Сергіевіча сакральнай тэматыкі: рэстаўрацыі малюнкаў у Вострабрамскім касцёле, 34-ох вялікіх абразах з арнаментацыяй у касцёле ў мястэчках Солы, Дукшты ды яшчэ ў мястэчку Корац, на Вальні.

У абставінах афіцыйнага дзяржаўна-польскага непрызнання Беларусі, беларускага, персанальная выстаўка Пётры Сергіевіча была не толькі адно актам самасцвярджэння таленту мастака. Фактычна з'явілася нечым большым, чым толькі чыста паказам, справаздачай перад грамадскасцю...

Можна сказаць наперад: чалавечы і мастакоўскі лёс Пятра Сергіевіча склаўся ў цэлым памысна. Хоць жыць яму давялося ў нялёгкія часы: у маладосці скрозь у матэрыяльнай нястачы, а ў вайну і пасля яе пры таталітарных рэжымах, з іх духоўным, палітычным прэсінгам, мастаку ўдалося захаваць унутраную свабоду, сваю пазіцыю ў мастацтве і пакінуць народу багатую творчую спадчыну. Вызначальную ролю ў гэтым адыграла зыходная арыентацыя на базавыя ментальныя каштоўнасці, народ, Радзіму, мастацтва, зразуметыя арганічна, без паняцційнага навязвання іх звонку, афіцыёзам. Мастаку ўдалося ўсцерагчыся ад усякага ідэалагічнага дыктату. Ісці адно на голас свайго прызвання, служыць ідэі духоўнага ўзвышэння свайго народа, працаваць на гістарычную перспектыву беларусаў.

У другой палове 30-х – на пачатку 40-х Пятром Сергіевічам створана цэлая галерэя жывапісных партрэтаў. Уласна ў партрэтнай галерэі Пятра Сергіевіча можна вылучыць дзве групы. Адну, вялікую, складаюць жаночыя партрэты. З тых, што ацалелі, захаваліся ў майстэрні мастака да 70-х гадоў, перш за ўсё партрэт студэнткі Валі Чэрнік, партрэт «Дзяўчына ў сінім сарафане», партрэты Ксені Грыгарук, Ванды Гір'яд, Стасі Кадзевічанкі, Любы Асаевіч.

Былі яшчэ Сергіевічавы партрэты віленчанак Пракаповіч, Навіцкай, Багушэвіч, Бялкоўскай, Янкоўскай, Блажэвіч, Махнач, Сухой, Лук'яновіч, вывезеныя пры выездзе іх уласнікаў у Польшчу або страчаныя ў ваенным ліхалецці.

Асобная заслуга Пётры Сергіевіча як мастака нацыянальнай тэмы палягае на стварэнні ў яго жывапіснай галерэі партрэтаў вядомых дзеячаў беларускай культуры, асветы, нацыянальна-вызваленчага руху. Сярод іх – некалькі постацей гістарычных. Мастак даносіць да нашчадкаў іх жывыя аблічы, вобразы. І ў гэтым яго бясспрэчная заслуга не толькі перад мастацтвам. У бальшыні сваёй інтэлігенты гэтыя згінулі адносна рана, не растраціўшы свайго інтэлектуальнага і творчага патэнцыялу. Іканаграфічнага матэрыялу пра іх засталося мала. Мастацкае сведчанне Сергіевіча пра іхнія асобы ў культурна-гістарычным, пазнавальным плане цяжка пераацаніць.

Асаблівай культурніцка-каштоўнаснай, эстэтычнай вартасцю вылучаюцца партрэты публіцыста, выдаўца, духоўніка Станіслава Глякоўскага, расстралянага гестапа, палітычнага дзеяча і літаратуразнаўца Антона Луцкевіча, асветніка і педагога Антона Неконда-Трэпкі, напаткаўшых смерць у сібірскіх лагерах.

Станіслаў Глякоўскі імпанаваў мастаку не толькі актыўнай грамадскай дзейнасцю, але як і ўдзячная мастацкая мадэль, натура. Тэмперамент, інтэлект Глякоўскага праглядалі ў самой знешнасці гэтага чалавека: валявым выразе твару, стройнай высокай, імклівай у хадзе постаці.

Партрэт Антона Луцкевіча рэпрэзентуе дасведчанага палітыка, інтэлектуала высокай культуры, складанага духоўнага свету. Характарыстычна выяўлены мастаком у яго алоўкавым накідзе выдатны празаік, гумарыст Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.). Жывапісны партрэт Міхася Машары выдае ў асобе паэта сціплага, гожага маладога сялянскага інтэлігента.

Перыяд ІІ сусветнай вайны ў жыцці Пётры Сергіевіча, як і ў лёсе яго землякоў, суайчыннікаў, быў цяжкі, выпрабавальны. Каб выжыць, мастак з'ехаў з горада ў вёску. Маляваў, рысаваў партрэты дзяўчат, сялян у роднай ваколіцы, падбіраў тыпаж. Назвы некалькіх пейзажаў Сергіевіча гэтай пары могуць даць пэўнае ўяўленне аб настроі, душэўным тонусе мастака: эцюды «Ноч», «Пад снегавым покрывам», кампазіцыя «Сум», «Сядзіба без гаспадара». Трывогу ў вобразнай выяве, каларыце тоіць невялікае палатно, напісанае гэтым часам, «Калыханка», на якім паказана маладая маці пры калысцы. Крыху святлейшая танальнасцю карціна 1943 г. «Зварот», у якой знайшлі адлюстраванне інтымныя перажыванні мастака, звязаныя з прывозам у Стаўрова маладой жонкі.

Дзесь пры канцы 1943 г. Стаўрова, як і многія лясныя вёскі на Беларусі, перажыло вялікую трагедыю – было спалена нямецкімі карнікамі. Адначасна ад рук вылюдкаў, апранутых у вайсковую форму, загінула семдзесят пяць стаўрaўчанаў.

Страціўшы матчыну хату, вясковае прыстанішча, Сергіевіч цяпер ужо назаўсёды перабраўся ў Вільню, дзе пад канец вайны, у 1944-ым стварыў поўнафарматныя жывапісныя партрэты спевакатэнара Міхася Забэйды-Суміцкага, таленавітай мастачкі-акварэлісткі Вольгі Фёдаравай і свайго бpаценніка-партызана Федзі.

Досыць плённай у творчасці П.Сергіевіча выдалася другая палавіна 40-х гадоў. Звязана яна была ў асноўным з мастакоўскім пераасэнсаваннем паэзіі Янкі Купалы. Яшчэ да вайны Пятру Сергіевічу ўдалося папрацаваць у віленскім Беларускім музеі. Непрацяглы час супрацоўнікам яго быў мастак і па вайне. «Любіў я бясконца гэты народны санктуарыум нашай старасвеччыны і гісторыі, – прызнаваўся пасівелы майстар беларускага партрэта ў сваёй кароткай аўтабіграфіі. – Музей змяшчаўся ў вузкіх сценах Базыльянскага манастыра. Як уваходзіш, бывала, павее сівой мінуўшчынай і нечым блізкім, дарагім... На шчасце, вайной музей уцалеў ад вывазу і пажараў».

У 1946 годзе па ініцыятыве літоўскіх савецкіх таварышаў Беларускі музей быў расфарміраваны, фактычна ліквідаваны. Беларуская віленская інтэлігенцыя ўжо другім пасля 1939 года заходам, у 1944-ым была арыштавана і вывезена. На месцы музея бараніць не было каму. Не было каму адстойваць яго і з Мінску. У ліквідную камісію прыслалі ад АН БССР элементарна не кампетэнтных наогул ні ў якай культуры, у тым ліку і беларускай, дзвюх жанчын. Бачачы свядомую ці несвядомую абыякавасць беларускага боку, арганізатары ліквідацыі акцыі для мінскіх таварышаў-экспертаў з усёй музейнай спадчыны адабралі толькі, што называецца, сёе-тое, дзеля прыліку. Ужо ў Мінску, пакансультаваўшыся нарэшце таго, каму мог належаць прывезены з парэшткамі музея вільветавы пінжак і доктарская шапачка, ды, даведаўшыся, што верагодна шматгадоваму яго рэпрэсаванаму кіраўніку-захавальніку Антону Луцкевічу, іх ціха спалілі.

На гэтым была як бы і закрыта справа Беларускага музея ў Вільні. Увосень 1946 г. Сергіевіч быў прыняты выкладчыкам на кафедру рысунка і жывапісу ў Дзяржаўны літоўскі мастацкі інстытут, які мясціўся ў тых жа самых Бернардзінскіх мурах, дзе і закончаны каліс мастаком факультэт былога польскага Віленскага ўніверсітэта.



Была і яшчэ адна вакансія. Перабірацца жыць і працаваць у Мінск Сергіевіча запрасіў сам сакратар ЦК КП(б) Беларусі Панамарэнка. Сталася гэта падчас хадайніцтва мастака перад уладай за сястру Гэлену, якая перад самай вайной была выслана ў Казахстан. Стары знаёмец Сергіевіча яшчэ з 1940 г. сакратар беларускага ЦК Ц.С.Гарбуноў арганізаваў мастаку сустрэчу з высокага дзяржаўца, першай уладнай асобы ў рэспубліцы. П.К.Панамарэнка такі вярнуў ні за што высланую сястру Сергіевіча, а самому яму зычліва прапанаваў членства ў Саюзе мастакоў БССР, кватэру ў Мінску. Тым часам Пётра Сергіевіч ужо на ўсё жыццё сабе выбраў Вільню.

Сястра не магла яго ўгаварыць паехаць, як гэта рабілі многія віленскія мастакі, у тым ліку і ягоныя сябры, у Польшчу, куды назаўсёды з'язджала з мужам сама. Сергіевіч усведамляў, што без Вільні, без Беларусі яму нельга. На шчасце, добра разумела гэта і спадарожніца яго жыцця пані Стася.

Неўзабаве Сергіевічаву майстэрню на Антокалі наведаў Валянцін Таўлай. З ім мастак асабіста пазнаёміўся яшчэ ў вайну падчас прыезду паэта ў складзе нейкай літаратурна-канцэртнай брыгады ў Вільню. Цяпер паэт з'явіўся як навуковы супрацоўнік літаратурнага музея Янкі Купалы, які толькі што стварыўся ў Мінску. Таўлай, за плячыма якога было нейкіх 10 год суровага падпольнага змагання за разняволенне народа, за свабодную Беларусь, не з пачутага ведаў пра арганічную беларускую скіраванасць мастацкай працы Пётры Сергіевіча. Магчыма, і не ўяўляў экспазіцыі першага ў Беларусі літаратурнага музея без твораў мастака. Купалава тэма карцінамі «Званар», «А ты, сіраціна, жыві...» прысутнічала ў творчасці Сергіевіча здаўна. Лепшы дарэвалюцыйны зборнік паэзіі Янкі Купалы «Шляхам жыцця», двойчы перавыдадзены ў Вільні ў міжваенным часе, на стэлажы, у бібліятэцы мастака, быў заўсёды навідавоку, пад рукой.

...А праз нейкі час мастацкая камісія пры музеі Купалы на чале з мастаком Іванам Ахрэмчыкам прымала пераўтвораную ў выяўленчыя вобразы на палатне Купалаву ідэю адраджэння народа, выказаную паэтам у вершы-гімне «А хто там ідзе?» Прымала Сергіевічаву мастакоўскую версію Купалавай ідэі, сфармуляванай як заклік – людзьмі звацца: стаць народам, свядомым свайго гістарычнага лёсу, сваёй будучыні.

Магутным у Сергіевіча атрымаўся эпічны вобраз Званара селяніна ў світцы, які звоніць трывогу. Асаблівa той асобнік карціны, што ў музеі тэатра імя Янкі Купалы. Заняў у экспазіцыі Літаратурнага музея Купалы сваё належнае месца і Гусляр з паэмы «Курган». Вобраз атрымаўся неардынарны, хоць аўтар залішне непасрэдна пайшоў за сюжэтам бессмяротнай паэмы.

Названыя творы ды з дзесятак жывапісных партрэтаў, пераважна родных, знаёмых, – асноўны набытак мастака 40-х гадоў. У 50-я - 70-я гады Пятром Сергіевічам былі створаны самыя значныя ў беларускім выяўленчым мастацтве гістарычныя кампазіцыі, прысвечаныя паўстанцкаму чыну Кастуся Каліноўскага і асветніцкаму прарыву Францыска Скарыны.

Але гэтых фундаментальных твораў, як і шмат якіх іншых, магло проста не быць. Не быць таму, што творца іх у 1949 годзе, падчас трэцяй хвалі рэпрэсій супраць беларускай інтэлігенцыі ў Вільні, мог падзяліць ссыльны лёс этнографа Мар'яна Пецюкевіча, журналіста і педагога Янкі Багдановіча, шырока знанага Адама Станкевіча.

*Друкуецца ў скароце*

# Нацыянальная ідэя ў сучасным свеце

У выдавецтве «Беларускі кнігазбор» пабачыла свет новая кніга Анатоля Астапенкі «Нацыянальная ідэя ў сучасным свеце». Манаграфія будзе цікавая навукоўцам, палітолагам, гісторыкам, палітыкам, а таксама ўсім тым, каго займаюць праблемы нацыянальнасці, нацыянальнай ідэі. Навуковы рэдактар манаг рафіі доктар філасофсіх навук, прафесар М. І. Крукоўскі, рэцэнзенты: доктар філасофскіх навук, прафесар У. М. Конан, доктар палітычных навук, прафесар С. В. Рашэтнікаў. Манаграфія суправаджаецца імянным і прадметным паказальнікам, а таксама бібліяграфіяй, якая ўключае ў сябе выданні на пяці мовах.

У раздзелах кнігі выкладаюцца асновы ідэалогіі нацыяналізму, яго суадносіны з іншымі палітычнымі і ідэалагічнымі плынямі. Разглядаюцца формы еўрапейскага нацыяналізму, сучаснасць і будучыня нацыянальнай ідэі ў Беларусі і свеце.

У сваім падыходзе да праблемы аўтар мае цвёрдую глебу. Такая пазіцыя дае магчымасць патлумачыць складаныя працэсы, якія адбываюцца ў свядомасці людзей і на ўзроўні грамадства. Гэта робіць тэксты зразумелымі і дасціпнымі нават чытачу, які не лічыць сябе інтэлектуалам.

За чым прыярытэт – за правамі чалавека альбо за правамі нацыі? Розныя падыходы да гэтага пытання нацыяналістаў і лібералаў нараджаюць ідэалагічныя плыні і палітычныя рухі. Аўтар так тлумачыць розніцу паміж імі: «Ліберальны прынцып прыярытэту правоў чалавека над правамі нацыі вядзе да змяншэння нацый, касмапалітызму, да бездухоўнага грамадства. Лібералы, убачыўшы моц нацыяналізму, спрабавалі і спрабуюць увесці нацыянальную ідэю ў сваю ідэалогію. Аднак пры гэтым узнікае непазбежны канфлікт». Свае тэзісы аўтар тлумачыць на прыкладзе з найноўшай гісторыі Беларусі.

У манаграфіі пададзена новая мадэль эвалюцый чалавецтва, дзе ў якасці галоўнага чынніка развіцця разглядаюцца рэлігія і этнас. Прыняцце хрысціянства прымаецца як эпахальная падзея ў гісторыі чалавецтва, якая карэнным чынам паўплывала на прадмет даследавання. Хрысціянства, на думку аўтара, абгрунтоўвае нацыяналізм, а ў залежнасці ад канфесіі змяняецца толькі яго тып. Як найбольш прыдатная глеба для развіцця нацыянальных каштоўнасцяў у кнізе названы пратэстантызм.

Нацыяналізм - адмоўная з'ява, якая вядзе да міжнацыянальных сутыкненняў, цягне за сабой слёзы, забойствы і смерць, ці наадварот – гэта шлях да ўдасканалення чалавечай сутнасці, праз узаемапавагу і любоў адной нацыі да другой? Любое разважанне на гэты конт у сённяшняй Беларусі актуальнае. У час глабалізацыі гэтае пытанне хвалюе не толькі ідэолагаў. Таксама і простыя людзі спрабуюць зразумець, за што змагаюцца антыглабалісты, паляць даляры і паліваюць сябе чырвонай фарбай. Супраць чаго яны пратэстуюць? Якая небяспека для простага чалавека ў тым, што лідэры многіх краін дамаўляюцца аб супрацоўніцтве? Адказы на гэтыя пытанні можна знайсці ў кнізе «Нацыянальная ідэя ў сучасным свеце».

Анатоль Астапенка

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ Ў СУЧАСНЫМ СВЕЦЕ

Свет імкліва развіваецца. У агульначалавечым маштабе праблема нацыянальнай ідэі набывае ўсё большую актуальнасць, менавіта таму, што прыналежнасць да нейкай канкрэтнай нацыі ўсё больш губляе сваё значэнне. Шырокае мысленне аўтара дазваляе ахапіць і глыбока прааналізаваць сучасныя падзеі, зірнуць на іх з пункту гледжання сусветнай гісторыі. Гэтая навукова-тэарэтычная праца дапаможа глыбей зразумець сучасную гісторыю, паспрыяе разуменню нацыянальных працэсаў у свеце.

**Марыя ЛУНГВЕН**

## Ідэалогія

# Вернікі супраць БРСМ

Главы евангельскіх дэнамінацыяў Беларусі звярнуліся да міністраў адукацыі і юстыцыі са скаргай на неправамоцныя дзеянні прадстаўнікоў Беларускага рэспубліканскага саюзу моладзі. Прычынай звароту сталі шматлікія выпадкі, калі насуперак волі і жаданням навучэнцаў школ і ВНУ іх прымушалі ўступаць у арганізацыю. Ліст падпісалі епіскап Саюзу хрысціянаў веры Евангельскай Сяргей Хоміч, епіскап Саюзу Евангельскіх хрысціянаў баптыстаў М.Сінкавец, епіскап Канферэнцыі цэркваў Хрысціянаў адвентыстаў Сёмага дня М.Астроўскі, ад аб'яднання Грамадаў хрысціянаў Поўнага Евангелля А.Саковіч.

Главы дэнамінацый адзначаюць, што апошнім часам да іх пачалі прыходзіць скаргі бацькоў на дзейнасць БРСМ. Пры агітацыі выкарыстоўваецца «добраахвотна-прымусовы» прынцып, а таксама тлумачыцца, што сябрам БРСМ прасцей паступіць у дзяржаўныя ВНУ і атрымаць жыллё. Веруючыя лічаць, што трывога бацькоў не беспадстаўная.

*«У адной са школаў Мінска спакушалі тым, што прымаць будуць толькі «лепшых» вучняў. Такія матывы закладаюць аснову для падзелу вучняў на «лепшых» і «горшых» паводле сяброўства ў грамадскай арганізацыі. Гэта з'яўляецца дыскрымінацыяй, а значыць, парушае правы дзяцей, гарантаваныя заканадаўствам: Кодэкс Рэспублікі Беларусь, арт. 182 «Раўнапраўнасць дзяцей». «Усе дзеці маюць роўныя правы незалежна ад ... акалічнасцяў, датычных дзіцяці і яго бацькоў»,* - сказана ў звароце. Таксама зазначана, што сітуацыя адмоўна ўплывае на фармаванне асобы, пазбаўляе права самастойнага выбару поглядаў, перакананняў і жыццёвага шляху.

*«Усялякая дзейнасць грамадскіх арганізацый павінна грунтавацца на заканадаўстве і не павінна парушаць законныя правы і інтарэсы грамадзян. Звяртаем увагу на змест часткі другой арт. 4 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, дзе запісана, што «Ідэалогія палітычных партыяў, рэлігійных або іншых грамадскіх аб'яднанняў, сацыяльных групаў не можа ўсталёўвацца ў якасці абавязковай для грамадзянаў»,* - пішуць ачольнікі евангельскіх цэркваў.

Вернікі просяць Міністэрства адукацыі і юстыцыі РБ прыняць неабходныя захады для прадухілення неправамоцнай дзейнасці, якая парушае правы грамадзянаў.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

**Уладзімір СЕЛІЦКІ**

# МАЛПА

## *Пункцірны абрыс аднаго лёсу*

Віктар прачнуўся і, як звычайна, прыняў лекі, запіўшы вадою з кефірнай бутэлькі; потым цяжка падняўся, адчыніў вакно. Затым ізноў лёг на стары тапчанчык, уключыў прыймач і ўважліва выслухаў прагноз надвор'я. Ягоныя сасуды балюча рэагавалі на змены ціску. Потым, масіруючы пальцамі скроні, павольна пагрузіўся ва ўспаміны, у аналіз свайго пакутнага жыцця...

Як што пачнецца, так тое і працягнецца, думаў Віктар. А пачалося з таго, што ён з'явіўся на белы свет як вынік выпадковасці. Айцец, аднак, пасля вялікага сумневу, ажаніцца пагадзіўся. Але ў ЗАГС патрапіць не давялося. Ён памёр скарапасціжна, ад інсульту. У яго была спадчынная гіпертанія... Гэтыя падрабязнасці распавяла Віктару аднойчы маці, як бы па сакрэту, і дадала, што бацьку звалі Віктарам, таму так яна сына назвала...

І жыў Віця без бацькі, каля маці шмат гадоў. Жыццё было, натуральна, цяжкае. І матэрыяльна, і маральна. Маці была з ім строгая, нават жорсткая. І, праўду сказаць, з ім было няпроста. Але маці ёсць маці. Гэта пачынаеш разумець, калі яна знікае. Галіна Мікалаеўна, так яе звалі, загінула пад коламі п'янага кіроўцы. Ёй і пяцідзесяці не было...

Глабальнаю ж праблемаю, бядой Віктара была ўсё ж не сям'я. Бядою была ягоная знешнасць, ягоны твар, якім ён нагадваў малпу. Відавочна было, што гэта памылка, як бы вытворчы брак прыроды. І што гармонія з чалавечым светам на дзевяноста дзевяць адсоткаў тут выключана. Такія дзеці бываюць, і яны жывуць. Жывуць як пакутнікі.

Калі ж да гэтай знешнасці дадаўся яшчэ жорсткі нораў маці, то ў выніку і атрымаўся мацнейшы комплекс непаўнавартаснасці.

Усё гэта, зразумела, крычала аб сабе ўжо з дзяцінства, але нязносным стала, калі яму споўнілася гадоў дванаццаць...

Канешне, ён рабіў спробы змагацца, але сілы былі няроўнымі, і комплекс пакрысе, але капітальна яго сагнуў... Кожны выхад з дому быў для яго цяжкім выпрабаваннем. На людзях ён адчуваў сябе нібыта распрануты. Здавалася, быццам усе ўтаропліваліся ў яго і толькі што не тычуць пальцам. Ён заўжды глядзеў сабе пад ногі, як бы ў чымсьці быў вінаваты перад сабой...

Віктар узяў са століка побач кніжку Цівал'е аб пошуках духоўнай праўды, якую прынёс сусед з дому насупраць, журналіст Адам, што часцяком забягаў то з батонам, то з кефірам, ведаючы, што «Малпа», такая мянушка была ў Віктара, ледзь ходзіць. Але нешта не чыталася, і ён, адклаўшы кніжку, ізноў аддаўся думкам...

Жанчын Віктар баяўся. Лічыў, што з іхняга пункту гледжання ён, канешне, нуль. Аднак аднойчы, пасля смерці маці, у яго нейкім чынам пасялілася Данута-дворнік. Сакрэт гэтага быў у тым, што жанчына проста ўзяла ўсю ўладу ў свае рукі. Яна быццам замяніла маці... Але і тут не склалася. Гадоў праз пяць, у суровую зіму, Дана захварэла і ад запалення лёгкіх памерла ў больніцы. Пахавалі яе на Кальварыі... Дзяцей у іх не было.

Здавалася, для аднаго чалавека гэтага дастаткова. Ды не. Бяда адна не ходзіць. Іншай Віктаравай загадкай, і не менш моцнай, была амаль поўная адсутнасць у яго волі, зусім слабая цэнэс. Калі некаторыя, нягледзячы на вонкавыя заганы, усё ж дасягалі поспеху ў жыцці за кошт моцнай волі, то ён гэтай магчымасці быў пазбаўлены. Скончыўшы, напрыклад, з цяжкасцямі вячэрнюю школу, ён рабіў спробы адукацыю працягваць. Але марна. Вывучыць, як след, гісторыю або замежную мову было звыш ягоных намаганняў. Пры тым, што здольнасці былі добрыя. Што асабліва збівала з толку. Здавалася, што справа ў ляноце і інэртнасці. Але насамрэч гэта было не прычынай, а наступствам заганнай цэнтральнай нервовай сістэмы. Прачытаўшы Паўлава, Віктар зрабіў спробу пракансультавацца з неўрапатолагам. Высветлілася, што такімі «тонкасцямі» той не займаецца. «Вам трэба ў акадэмію», - ці ў жарт ці ўсур'ёз параіў неўрапатолаг.

Віктар доўга, як мог, біўся. Складаў рэжым дня, пачынаў «новае жыццё»... Усё дарэмна... Ён нагадваў чалавека, які караскаецца - у адчаі - на ледзяную гару, робіць мноства спробаў і, у рэшце рэшт абяссілены, здаецца... Калі б падтрымаў сябра-альтруіст, але ж такія не кожнаму сустракаюцца ў жыцці...

Скончылася тым, што яшчэ жывая тады маці ўладкавала яго, праз знаёмую, начным вартаўніком у невялікую кантору. І тут ён урэшце прыжыўся. Кавалак хлеба цяпер у яго быў.

Ды як што пачнецца, так тое і працягнецца. З часам у Віктара стала праяўляцца заганная спадчыннасць з боку бацькі - гіпертанія. Калі дадаць сюды начныя вахты, то не дзіўна, што яго напаткаў інсульт. Хутка з'явіліся наступствы. Кепска сталі хадзіць ногі, горш працавала адна рука і, самае цяжкае - з'явілася галавакружэнне, амаль хранічнае. «Малпа» нават атрымаў пенсію па інваліднасці.

Віктар перапыніў свой роздум і паглядзеў у расчыненае вакно. За ім разрасліся вялікія кусты, якія яны яшчэ з маці калісь пасадзілі тут...

І ў гэты момант нехта падышоў да вакна.

- Не палохайся, Віктар. Я некалі жыла ў гэтым доме. Лера. Памятаеш? Я стасуюся з Янай з другога паверха. Прыехала, а яе няма. Мы размаўлялі з ёю пра цябе... Як тваё здароўе?

- Нічога... А ты як жывеш, што робіш?

- Працую ў дзіцячым садку. У самой ужо ўнукі... У мяне ёсць сяброўка - медык. Можа цябе што цікавіць?

- Дзякуй, Лера. Зараз нічога не цікавіць. Быў і ў адмыслоўцаў, клалі ў шпіталь. Перапрабаваў шмат лекаў - усё марна.

- Зараз я прыгадала, як аднойчы ў дзяцінстве ты выпадкова зламаў маю цацку; як ты перапалохаўся і горка плакаў. Мне было шкада добрай цацкі, але яшчэ больш цябе, што цябе пакарае маці. І я сказала, што дарую табе і скажу, што зламала сама. Памятаю, як нам стала хораша, і мы сталі смяяцца...

- А я гэты выпадак не памятаю...

- Віктар, ты веруючы чалавек? - спытала раптам Лера.

- Не. Маці не верыла і мяне гэта абмінула.

- Ведаеш, я ўпэўнена, што пакуль ёсць надзея - жывы і чалавек.

- Вось і Адам, сусед, мне пра тое ж гаворыць...

- Хочаш, пойдзем зараз у храм? Я якраз збіраюся...

- Ты ведаеш, гэта дзіўна, але і мне прыйшла такая думка, калі ты прыгадала той выпадак з дзяцінства.

- Пойдзем, Віктар, не трэба адкладваць. Бог усім дае надзею.

- Пойдзем, - сказаў «Малпа» і пачаў падымацца з ложка...

# Габрэі і беларусы

Заўсёды людзям было ўласціва пазбягаць адказнасці і ўскладаць віну на некага іншага. У старажытных народаў нават быў звычай сімвалічна абвінавачваць ва ўсіх грахах і правінах нейкую жывёлу, якую потым прыносілі ў ахвяру разгневаным багам. Старажытныя габрэі ў якасці выкупляльнай ахвяры выкарыстоўвалі казла, якога выганялі ў пустыню на волю лёсу. Узгадвае гэты абрад і Біблія: «І панясе казёл на сабе ўсе беззаконні іх у зямлю непраходную...» Адсюль паходзіць знакаміты выраз – «казёл адпушчэння».

Доўгі час такую функцыю ў Еўропе выконвалі габрэі як нацыя выгнаннікаў. Невядома чаму менавіта гэты народ пачалі лічыць прычынай усіх няшчасцяў. Магчыма, з зайздрасці, бо габрэі надзвычай здольныя да прадпрымальніцтва людзі. Магчыма, з-за незразумеласці і недасведчанасці, што паўставалі ў выніку замкнутага жыцця габрэяў. Як бы там ні было, але зараз гэта вельмі старажытная нацыя па-ранейшаму жывая. Праз стагоддзі пранесла яна свой генатып, сваю культуру, свайго Бога, не растварыўшыся ў шэрагу навакольных народаў. У гэтым загадка нацыі.



У дачыненні да расейскай культуры, а асабліва да літаратуры, прынята гаварыць пра асаблівы ўнёсак, што зрабілі прадстаўнікі габрэйскага народа. Але да гэтага часу адносіны расейцаў да іх застаюцца неадназначнымі. У свой час была вельмі вядомай дзейнасць «Саюза Міхаіла Архангела», які меў выразную антысеміцкую арыентацыю і практыкаваў пагромы габрэйскіх кварталаў. Канфрантацыю паміж расейцамі і габрэямі добра разумеў Ф.М.Дастаеўскі, што знайшло адлюстраванне ў яго творах. В.Гросман у сваім незвычайным для савецкай літаратуры рамане «Жыццё і лёс» вуснамі аднаго з герояў казаў, што Л.Талстой у яго інтэрнацыянальных аповесцях «Хаджы Мурат», «Казакі», «Каўказскі палонны» застаецца больш расейскім, чым «літвін Дастаеўскі» з яго антысемітызмам. Вельмі прыемным з'яўляецца той факт, што Гросман не без падстаў адносіць Дастаеўскага да «літвінскага», г. зн. беларускага культурнага кантэксту, але ў дачыненні да пытання пра габрэяў, як нам здаецца, ён не меў належнай рацыі.

Габрэі на тэрыторыі сучаснай Расеі жылі больш кампактна і ізалявана. Старасвецкія ж беларускія гарады і шматлікія мястэчкі наогул цяжка ўявіць без габрэяў. Менавіта яны ў колькасных адносінах часамі мелі перавагу ў асобных населеных пунктах. Здаўна вядомая прымаўка: «На беларусі тры сталіцы – Мінск, Бабруйск і Плешчаніцы». Мінск – сапраўдная сталіца, Плешчаніцы – з ironіяй і дзеля рыфмы, а Бабруйск быў сапраўднай габрэйскай сталіцай на Беларусі, як некалі мястэчка Мір было знакавым месцам для ўсіх цыганоў Рэчы Паспалітай.

Вялізарная колькасць мястэчак мела гэты свой ганаровы статус толькі дзякуючы габрэям, якія займаліся рамёствамі, гандлем, утрымлівалі корчмы, шынкі, валодалі млынамі і тартакамі (лесапільнямі). Гэтыя заняткі і адрознівалі мястэчка ад пераважна земляробчай вёскі. Мястэчкі, на нашу думку, трэба лічыць своеасаблівымі культурнымі феноменамі, якія з'яўляюцца спецыфічнымі паселішчамі нашай зямлі. Адметная іх рыса – бажніца, часам не адна, і кірмашы некалькі разоў на год. Калі прыпомнім з літаратуры, у Расеі гэтымі прыкметамі валодалі сёлы, а ў расейскай мове нават няма свайго, незапазычанага слова для абазначэння мястэчак.

Беларусы і габрэі на працягу доўгага часу жылі разам. Шляхам паўсядзённых, бытавых кантактаў шмат габрэйскіх слоў перайшло ў беларускую мову, напрыклад - кагал, гвалт, шабасоўка, шабасаваць, гелда, вэрхал і г.д. Рука ў руку яны працавалі, вучыліся поплеч, разам на адной вуліцы гадавалі дзетак. Разам і пам іралі. Зараз шмат у якіх месцах можна пабачыць закінутыя іудзейскія могільнікі з вялікімі надмагіллямі з шэрага каменю. Большасць з іх не даглядаюцца, параслі быльнягом, а пліты з незразумелымі і таемнымі для сучасных людзей надпісамі зваліліся долу. Аднак яны па-ранейшаму сведчаць пра даўнейшае жыццё беларусаў і габрэяў у адной супольнасці. Францішак Багушэвіч з сімпатыяй пісаў пра свайго земляка, жупранскага шынкара Бэрку:

*Сеў жыдок у нас у вёсцы,*
*Пры гасцінцы, пры дарожцы.*
*Меў ярмулку, трэпкі, цыцэль,*
*Ў балахоне новы гіцэль,*
*Шэсць дзяцей ад жонкі Рохлі,*
*Паўасьміны меў картохлі...*

Таксама цяжка ўявіць «Камедыю» Каятана Марашэўскага без аднаго з персанажаў, а менавіта без габрэя-шынкара. Сёння гэты выдатны драматычны твор вернуты да жыцця і ўжо на працягу некалькіх гадоў не сыходзіць з падмосткаў мінскага Малога тэатра. Тыя, хто глядзеў гэты спектакль, пагодзяцца, што ён многа б страціў без неардынарнага вобраза шынкара Давіда. Нічым не адрозніваюцца габрэі ад беларусаў у апавяданні А.Мрыя «Рабін», а нават у побыце сваім вельмі падобныя, бо гатуюць крупеню – нацыянальную страву беларусаў. Прафесар Габрэйскага універсітэту Самуэль Агурскі, бацька якога нарадзіўся на Беларусі і стаў вядомы як рэвалюцыянер і гісторык, зазначаў: «Беларускія габрэі ў сваёй глыбіннай мястэчкова-вясковай масе маглі цесна кантактаваць з беларусамі і пераняць іх пэўныя душэўныя якасці, такія, скажам, як добразычлівасць, даверлівасць, цярплівасць і цярпімасць». (Цыт. па: Запруднік Янка. Беларусь на гістарычных скрыжаваннях. Мн.,1996. Ст. 220). Традыцыі сумеснага пражывання іх сапраўды сягаюць вельмі даўніх часоў, бо ўпершыню габрэі з'явіліся на беларускіх землях яшчэ ў XII стагоддзі, калі прыйшлі выгнаныя з Кіева за тайныя зносіны з візантыйцамі. Аднак масавае перасяленне габрэяў адбылося ў сярэдзіне XIV стагоддзя. У гэты час у Еўропе была эпідэмія чумы, ад якой загінула трэцяя частка ўсяго насельніцтва. Віна за хуткае распаўсюджванне хваробы была ўскладзена на габрэяў, якія, ратуючыся ад пераследу, уцякалі ў Польшчу і далей – у ВКЛ. Улады даволі гасцінна сустракалі выгнаннікаў, і ў XV стагоддзі сюды перамясціўся цэнтр рэлігійнага і культурнага жыцця габрэяў.

На тэрыторыі Беларусі будаваліся драўляныя і мураваныя сінагогі, якія былі ў кожным мястэчку і па некалькі ў кожным горадзе. Духоўным жыццём іудзейскай суполкі кіравалі рабіны, настаўнікі Закону. Гэта былі адукаваныя і паважаныя ў сваім асяродку людзі. Пра іх агромністы аўтарытэт таксама і між беларусамі сведчыць надзвычай папулярная ў XIX ст. і вядомая па школьнай праграме «Гутарка Данілы са Сцяпанам». Яна мае наступныя радкі:

*Гавораць па свеце, уголас талкуюць,*
*Ад ксяндзоў, ад рабінаў усе людзі*
*чуюць,*
*Што вольнасць нам бедным дасць*
*без адкладу;*
*Толькі што з панамі не дойдзема ладу.*

У дадзеным творы героі, якія сышліся абмеркаваць абяцаную і доўгачаканую волю, спасылаюцца на дасведчаных асобаў нездарма, а з пастаўленай аўтарам мэтай пераканаць і схіліць на свой ідэалагічны бок чытачоў або слухачоў гутаркі.

Увогуле, габрэі пачувалі сябе цалкам утульна, жывучы побач з беларусамі. Многія з іх па-сапраўднаму ўзбагацілі і ўзмацнілі нашу культуру. Чаго вартыя толькі, да прыкладу, імёны мастакоў Марка Шагала, Юрыя Пэна і Барыса Забарава, скульптара Заіра Азгура, класіка беларускай літаратуры Змітрака Бядулі, літаратурнага крытыка Рыгора Бярозкіна, музычнага дзеяча Міхаіла Фінберга і г.д.

Узаемная падтрымка між габрэямі многім кідалася ў вочы. Толькі дзякуючы ёй яны маглі супрацьстаяць неспрыяльным абставінам. Ф.Багушэвіч, вельмі мудры чалавек, намаляваў у вершы «Падарожныя жыды» сітуацыю, калі два беларусы, што падвозілі габрэяў, не захацелі адзін аднаму саступаць шлях на вузкім гасцінцы і распачалі з-за гэтага бойку:

*І, можа б, так насмерць пабілі,*
*Дык хітра ж і жыдкі зрабілі:*
*Той перасеў таму на воз, а той туды.*
*І так запхалі абодва без бяды;*
*І мужыкам так стала бліжэй дому,*
*І крыўды ніякай нікому.*

У дадзеным выпадку, а, напэўна, і заўсёды, габрэі кіраваліся ў першую чаргу разважлівасцю і кемлівасцю. Трэба адзначыць, што старое беларускае слова «жыд», ужытае Багушэвічам, не нясе адмоўнай канатацыі, якая прысутнічае зараз у расейскай мове. На нашу думку, гэта было прыўнесена ў беларускую культуру ў часы Расейскай імперыі і канчаткова замацавалася пры Савецкім Саюзе разам з чужым для нас звяртаннем па бацьку. Багушэвіч жа ў нечым заклікае браць прыклад з габрэяў і вучыцца ў іх жыццю:

*Пазналіся жыдкі, пагергаталі,*
*Дык мужыкі і біцца перасталі!*
*А што, каб так і мы зрабілі,*
*А можа бы, і нас не білі?*

У гэтых словах хаваецца глыбокі змест, у якім можна адчуць спадзяванні аўтара на далейшую вольнасць і запавет, як яе дасягнуць.

Але ўжо ў XIX стагоддзі габрэяў пачынаюць падазраваць у нейкай тайнай дамове. Тлумачыцца гэта духоўным і эканамічным крызісам, што напаткаў Еўропу ў тыя часы. Ф.Багушэвіч у сваім артыкуле «Габрэі і мы» ў польскамоўным часопісе «Край» за 1891 год развейваў гэтую ілюзію. Пішучы пра эксплуатацыю габрэяў супляменнікамі, казаў, што «славутая габрэйская салідарнасць тут і не начавала». Яшчэ і зараз некаторыя «коса» глядзяць на прадстаўнікоў гэтага этнасу, але гэта, відаць, перажыткі старых савецкіх часоў, калі амаль на дзяржаўным узроўні вітаўся антысемітызм.

На мірныя ж і дзелавыя адносіны паміж беларусамі і габрэямі накладаўся іх падобны гістарычны лёс: як тыя, так і другія праследваліся, дыскрымінаваліся непрыхільнымі палітычнымі рэжымамі ці то з польскага, ці то з расейскага, а потым з савецкага боку. Сваім мужным супрацьстаяннем агрэсіі, адкрытай траўлі габрэі даюць прыклад нам, беларусам, якім трэба яшчэ шмат чаму павучыцца ў гэтага таленавітага народа.

**Віктар ШУКЕЛОВІЧ**

# Сонцакрыж



**Такую канцэптуальную назву надаў выставе сваіх твораў знаны скульптар і жывапісец Алесь Шатэрнік. Выстава наладжана ў Галерэі сучаснага мастацтва (на плошчы Коласа ў Мінску). Работы Шатэрніка знаходзяцца ў музеях рэспублікі, прыватных зборах Італіі, Польшчы, Францыі, Траццякоўскай галерэі ў Маскве, у Белым Доме (Вашынгтон), арт-музеі «Цымерлі» ў Нью-Джэрсі (ЗША). Выстава знаёміць і з паэтычным талентам майстра. Некалькі твораў і вершаў гэтай экспазіцыі мы прадстаўляем чытачу, які яшчэ мае магчымасць наведаць выставу асабіста.** (На здымках: **Вітаўт Вялікі. Ефрасіння Полацкая. Язэп Драздовіч.)**

**А ў вечары над дахам запальвалася Сем Зорак**
**Вялікага зьвязу...**
**Згадваючы пра тое,**
**што пад гэтым дахам месьціліся**
**Сем родных, тоесных Душаў...**

**Наплывала ціхая, празрыстая, летняя**
**Ноч...**

* * *

**Сад**
**Галіны яблынь у аблокі рвуцца,**
**Духмяных кветак падаючы цень,**
**Праз сад да Балдука сьцяжынка ў'еццa**
**І кліча-творча, плённа пачынаць свой дзень...**



Фота У. Шлапак



* * *

**Ты ідзеш,**
**Ты расьцеш,**
**Цябе заўважаюць,**
**Цябе паважаюць,**
**Ты паважаеш сябе.**
**Стой! Азярніся,**
**Ці, ні губляеш**
**Сябе?..**

* * *

**Надвячорак.**
**Хутка зоркі зазьяюць у небе.**
**Дзень прайшоў.**
**Настае Час развагі...**
**Аб вечным каханьні,**
**Надзеі-**
**Самотным чаканьні...**



* * *

**Мне часам мроіліся ледзь чутныя**
**галасы і гукі Менскіх муроў...**
**Вабілі настальгічнай цішынёй**
**мастацкіх майстэрань, што выспай**
**ўзвышаліся ў суквэцьці бэза і яблынь,**
**ў старым Ракаўскім прадмесьці...**
**Сьцішаліся ў Прасторы,**
**Сплывалі ў Часе...**

# IQ48: сінтэз рэпа і роднай мовы!

Як вядома, рэп – гэта сучасны музычны стыль, які нарадзіўся ў асяроддзі чарнаскурага насельніцтва ЗША. Яго сэмпліраваныя рытмы, шпаркія рэпавыя тэксты-чытанкі пра сэнс гарадскога існавання ўсё больш урываюцца ў сусветны музычны кантэкст як своеасаблівы сацыяльны і контр-культурны феномен, імя якому hip-hop. Шматлікія прыхільнікі творчасці Africa Bambaataa, «BEASTY BOYS» і Eminem'a ў розных краінах свету спрабуюць «перакласці» прыёмы чытання рэпа на родную мову, каб пазнаёміць з гэтым стылем як мага больш прыхільнікаў.

Цікава, што і ў Беларусі выкрышталізавалася кола выканаўцаў, якія ўдала сінтэзавалі мову Купалы і Коласа з ламанымі рэпавымі рытмамі. Сярод гэткіх наватараў адмыслоўцы выдзяляюць малады мінскі гурт IQ48, які не так даўно дэбютаваў на дыску «Hardcoreманія: чаду!», прадставіў сваю творчасць на трыб'юце гурту «N.R.M.», у сталічных клубах і канцэртных залах.

Цікава, што лідэрам IQ48 з'яўляецца вядомы ў беларускіх рэпавых колах МС (гэта значыць, саліст-выканаўца рэпа) Фрэйд – Павал Зыгмантовіч.

Пра тое, як гэта адбылося, пра сённяшнія дасягненні і планы гурта IQ48 мы гутарым з **Паўлам «Фрэйдам» Зыгмантовічам.**

– Тады ўсё пачыналася з нашай агульнай цікавасці да такога экзатычнага стылю, як рэп-музыка: пісаліся тэксты, мелодыі, ствараліся самаробныя фанаграмы.

Тады ў канцы 90-х мы з Лэдам аднойчы зайшлі ў клуб PALL MALL, прапанавалі паслухаць нашыя запісы. А нам і адказваюць: «Тут мы рыхтуем вечарынку. Не маглі б вы ў нас выступіць хвілін на трыццаць?» Трыццаць хвілін для рэпера ў Беларусі – гэта раскоша! І мы згадзіліся.

За адну ноч мы паднавілі ўсе тэксты, напісалі мелодыі да сваёй першай праграмы і з ёй выйшлі на сцэну. Выступ наш быў страшэнна няўдалым, як нам падалося. Але народу спадабалася!

Далей усё адбылося яшчэ больш дзіўна. Аднойчы Лэду прыйшла ў галаву фраза аднаго з герояў «Пінскай шляхты» В. Дуніна-Марцынкевіча: «Хрэн табе ў вочы, трасца табе ў бок!» Гэты рэфрэн так нам спадабаўся, што мы напісалі песню з такой назвай і сталі яе выконваць на канцэртах. Так атрымалася, што мы з Лэдам сталі першымі, хто пачаў выконваць рэп па-беларуску.

Акрамя гэтага, дзякуючы Internet я зразумеў, што беларускамоўны рэп выклікае найбольшую цікаўнасць за межамі Беларусі: у Літве, Расеі, Украіне, дзе заўсёды на нашыя рэпавыя чытанкі па-беларуску рэагавалі адналькава: «О, якая прыгожая мова, прышліце яшчэ нешта па-беларуску!» Тады мы ўбачылі, што беларуская мова ў рэп-музыцы – гэта, акрамя мастацкай вартасці, вельмі паспяховы маркетынгавы ход.

**– Асабіста мне прыйшлося пазнаёміцца з рэп-тэкстамі дуэта Фрэйд і Лэд з публікацыяў у часопісе «Першацвет». Як вам, андэграўндным выканаўцам, удалося «праціснуць» свае творы ў гэтае літаратурнае выданне?**



**Фрэйд: «Хрэн табе ў вочы, трасца табе ў бок», калі не любіш беларускі рэп!**

– Так, аднойчы малады паэт В. Жыбуль пасля канцэрта падышоў да нас і запытаў: «Не хацелі б вы, каб вашыя тэксты былі апублікаваныя?» Мы згадзіліся. Праз некаторы час нашыя з Лэдам рэп-чытанкі былі надрукаваныя ў «Першацвеце». Напэўна, упершыню ў Беларусі (і не толькі) рэп пабачыў свет на старонках літаратурнага часопіса!

**– Як жа адбыўся твой пераход ад працы ў дуэце да стварэння гурта IQ48? Якія музыкі сёння граюць у вашай камандзе?**

– Праз некаторы час мы з Лэдам зразумелі, што нам больш цікава працаваць паасобку. Лэд стварыў студыю «Хата», на якой запісвае і выдае рэпавыя дыскі. Я ж пазнаёміўся з гітарыстам гурта «Чудаплан» Бузой, з якім мы вырашылі стварыць новы праект. Так мы пачалі выконваць стылістычна неакрэслены рэп пад рытмічную гітарную музыку і назвалі ўсё гэта – гурт IQ48.

Што тычыцца нашай назвы, то нам хацелася, каб у ёй было шмат пазітыву і прыколу. Падумалі і вырашылі: IQ48 – самы лепшы варыянт. Ну а для журналістаў мы падрыхтавалі «абгрунтаванні», накшталт таго, што IQ48 – гэта слэнгавая назва амерыканскага паліцэйскага пісталета, альбо, што інтэлектуальны каэфіцыент IQ у 48 адзінак – гэта мяжа, за якой чалавек не можа лгаць і гэтак далей... Што ж тычыцца складу гурта, то ў ім сёння граюць А. Ракавец (вакал), П. Зыгмантовіч «Фрэйд» (вакал), Я. Буззоўскі «Бузза» (гітара), К. Калеснікаў (бас), А. Мацулевіч (бубны), І.Зуеў (саксафон), А. Стаўскі (гук).

**– Адрозненне вашых чытанак - наяўнасць «гарачых» сэксуальных тэмаў. Чым гэтая скіраванасць выкліканая?**

– Калі мы казалі пра пазытыў, то імкнуліся да яго ва ўсіх формах. А адносіны паміж хлопцамі і дзяўчатамі – гэта вельмі пазітыўны момант жыцця! Мы імкнёмся адлюстроўваць яго ў сваіх чытанках.

Акрамя гэтага, нягледзячы на наш узрост, засталося жаданне па-добраму, не злосна пахуліганіць, эпатыраваць публіку. Вось і не так даўно мы напісалі такую песеньку, герой якой з пераменным поспехам заляцаецца да маладой дзяўчыны...

**– Фрэйд, ваш гурт шмат удзельнічаў у кампіляцыях, кшталту «Hardcoreманія: чаду!». Што дае вам удзел у такіх праектах?**

– Удзел у гэтых зборках і канцэртах дае магчымасць пашырыць сваю слухацкую аўдыторыю. На CD «Hardcoreманія: чаду!» сваю песню «Клён» мы аддалі ў «нежывым» выглядзе, калі песня была запісана на кампутары, толькі з «жывой» гітарай. Але дзякуючы таму, што песня трапіла на гэты дыск, «Клён» і да сённяшняга дня – самы папулярны гіт сярод менскіх аматараў клубных тусовак – клабераў. Цяпер гэтую песню мы выконваем трохі па-іншаму і заўсёды ёй завяршаем канцэрты.

**– Відэа-кліп на песню гурта IQ48 «Тапалі» не так даўно трапіў у ратацыю Першага музычнага канала. Некалькі слоў пра яго здымкі...**

– З кліпам на песню «Тапалі» ў нас здарылася шмат «прыколаў». Галоўны з іх – тое, што нас пасля здымкаў «турнулі» з рэпетыцыйнай кропкі.

Кліп мы здымалі 3 месяцы, у тым ліку і ў паркава-сядзібным комплексе ў Лошыцы. На жаль, якасць стужкі атрымалася фармату home video. І, шчыра кажучы, мы былі вельмі ўзрушаны, калі кліп «Тапалі» з'явіўся на Першым музычным канале. Хацелася б выказаць яго супрацоўнікам сваю шчырую ўдзячнасць за ўвагу да творчасці гурта IQ48!

Што тычыцца новага відэа, то зараз у нас з'явіліся якасныя канцэртныя відэазапісы. Таму наступны кліп мы плануем зрабіць з канцэртных «нарэзак» і запісаў падарожжаў, якія здзейснілі ўдзельнікі нашай каманды.

**– У гісторыі гурта IQ48 вельмі сумным з'яўляецца той факт, што да гэтага часу каманда не мае свайго дэбютнага кампакт-дыска. Калі можна чакаць яго з'яўлення?**

– З выданнем дыска ў гурта цяжкасці – няма грошай. Хаця мы запісалі да яго ўжо некалькі песень. Усяго траціна праграмы будучага дыска. Мы вырашылі, што будзем запісваць па адной песні ў месяц, каб да канца года выдаць наш сольны альбом.

Каб зрабіць яго цікавым для аматараў беларускамоўнага рэпу мы плануем яго запоўніць рытмічнымі кампазіцыямі, прыкольнымі прыпеўкамі-скэтамі, аформіць у стылі, характэрным для рэп-выканаўцаў. Так што прашу нашых слухачоў і прыхільнікаў пачакаць да восені гэтага года!

**Гутарыў**
**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

# Фашынг

**Наша і «заморскае» жыццё адрозніваюцца. Але адрозніваюцца толькі сваёй формай: паўсюль і з тых жа прычынаў аднолькава сябруюць і ваююць, радуюцца і засмучаюцца. Загарні нашу «Барбарыску» ў яркую этыкетку ад «Scupa scups», і адразу яна здасца смачнейшая. Наша жыццё ад іхняга шмат у чым толькі гэтым і розніцца – «этыкеткай».**


Фашынг у Майнцы. 2003 г.

### Па чым сустракаем

Адрозніць гарады ад вёсак у Германіі насамрэч вельмі складана. Калі гэта не Франкфурт ці Мюнхен, а звычайны гарадок, то адрознівацца ад звычайнай вёскі ён будзе колькасцю насельніцтва, магазінаў і кафэ. Вялікія і малыя дагледжаныя катэджы, бывае, размешчаныя адзін ад другога на адлегласці выцягнутай рукі; аздобленыя вянкамі ўюноў і кветак вузенькія брукаваныя вулачкі; круглы год багатыя на зеляніну маленькія плошчы – гэта і ёсць тыповая карцінка нямецкага мястэчка ці вёскі. Асабліва першыя тыдні мяне не пакідала адчуванне штучнасці гэтага ўсяго: бы ў лялечны гарадок трапіла. Уражанне дапаўняе блізкае размяшчэнне населеных пунктаў. Скажам, вось вам горад Крыфталь, а праз дарогу Хофхайм, калі ласка.

Нязвыкла бачыць і такую вялікую колькасць веласіпедаў. Яны стаяць і ляжаць паўсюль: каля кінатэатраў, магазінаў, кафэ, вакзалаў. Звычайна, вяртаецца гаспадар з працы, якая знаходзіцца ў суседнім горадзе, а каля вакзала яго чакае–не дачакаецца ровар – сябра, пакінуты тут яшчэ раніцай.

Наш чалавек адразу прыкмячае і лёгкую неахайнасць мясцовых у адзенні. Ужо пазней становіцца ясным, што гэта адсутнасць тут культу вопраткі.

### Днём з агнём...

Дзесяць разоў табе на вуліцы скажуць «Добры дзень» (і неабавязкова з разлікам на яго сумесны працяг) дзесяць прадстаўнікоў іншых народаў. І гэта не толькі з-за прыроднай сарамлівасці немцаў. Усё ідзе да таго, што хутка грамадства Германіі назавуць мульцікультурным», афіцыйная колькасць легальных эмігрантаў сягае да 7,3 млн. чалавек. Два апошнія дзесяцігоддзі Германія з'яўляецца краінай інтэнсіўнай эміграцыі. Колькасць эмігрантаў у разліку на 100.000 карэнных жыхароў у некалькі разоў перавышае такі ж паказчык для ЗША, Канады і Аўстраліі.

У продажы бачыла адну вясёлую паштоўку: у радок стаяць каля 20 прадстаўнікоў іншых народаў, а ўнізе подпіс «Мы нічога не маем супраць замежнікаў. Многія немцы – нашы сябры». З аднаго боку, такая мяшанка народаў – не дрэнная рэч: хутка немцаў назавуць самай прыгожай і разумнай нацыяй. Дэмаграфічную праблему (адбываецца старэнне нацыі) міграцыя таксама збольшага можа вырашыць. Тым больш, што зараз вельмі папулярныя ў Германіі інтэрнацыянальныя шлюбы. А паказчык нараджальнасці ў інтэрнацыянальных сем'ях вышэйшы за гэты ж паказчык у немцкіх.

З другога боку, немцы вельмі баяцца стварэння нацыянальных гета, якія пачнуць жыць па сваіх законах. Каб не давесці да гэтага, створана і добра працуе палітыка інтэграцыі. Напрыклад, без ведання мовы ўладкавацца нават месці вуліцы немагчыма.

Асабліва хутка інтэгруюцца ў грамадства дзеці. Выпадак у аўтобусе – добры доказ гэтаму. Едучы да сваіх беларускіх бабуль на канікулы, хлопчык і дзяўчынка знаёміліся, а потым размаўлялі паміж сабой на нямецкай мове. На маё пытанне «па колькі гадоў малыя пражылі ў Германіі?», бацькі адказалі, што не больш за два.

### Сказ пра нашых

«Эх, дзе наша не прападала?!» – з такой думкай едуць тыя, што сур'ёзна збіраюцца звязаць сваё жыццё з чужой краінай. А на Захадзе выжыць, сапраўды, прасцей. І не толькі таму, што грошы, якія ты зарабіў, заплацяць. Там блізка знаёмы з правамі чалавека. Нават дзеці ведаюць, куды трэба патэлефанаваць, калі бацькі або яшчэ нехта адважыцца парушыць іх правы. Як сказала мая сяброўка, там яна адчувае «хоць якую, ды абароненасць». Гэта не адзіныя прычыны, з-за якіх нашы, трапляючы за мяжу, імкнуцца там назаўсёды асесці. Ёсць і іншыя.

Паняцце «наш чалавек» за мяжой значна шырэйшае. Тоесныя яму і «савецкі», і «рускі».

Калі дзяліць «нашых» на катэгорыі, атрымліваецца ўсяго чатыры:

1. Добрыя спецыялісты, якія выехалі з сем'ямі, працуюць у прэстыжных фірмах і ўстановах;

2. Этнічныя немцы з былога СССР;

3. Студэнты і ўдзельнікі розных маладзёвых праграм.

4. Пераважна жанчыны, якія выйшлі замуж у Германію.

Усе чатыры катэгорыі разам можна сустрэць толькі ў адным месцы, у царкве.

Цяжэйшая доля – доля студэнцкая. Большасць студэнтаў ужо маюць нашу вышэйшую ці незакончаную вышэйшую адукацыю. У Германію прыехалі з цікаўнасці ці з безвыходнасці, самастойна або па розных маладзёвых праграмах. Вывучылі мову, знайшлі ўтрымальнікаў (абавязкова імі павінны быць немцы) або сем тысяч еўра на сваё ўтрыманне (некаторыя бяруць ліпавыя даведкі з працы бацькоў, што тыя са свайго заробку(!) кожны месяц гатовы на пражыццё свайму чаду даць мінімум тысячу еўра) і залічыліся ў першакурснікі. За вышэйшую адукацыю замежнікі ў Германіі не плоцяць, толькі за інтэрнат (ад 150 еўра), за медыцынскую страхоўку (54 еўра), за праязны (каля 100 еўра) і г.д. Штомесяц толькі на самае сціплае жыццё неабходна зарабіць 600 еўра. Таму і круцяцца, хто як можа. Адны працуюць AU PAIR (гувернантамі), другія – бэбісітэрамі (толькі па вечарах застаюцца з дзецьмі), трэція – прыбіральшчыкамі, афіцыянтамі, адміністратарамі ў гатэлях і г.д. Працоўны час студэнтам ліміціруюць. А колькасць працоўных гадзін у тыдзень залежыць ад рэгіёну, ад універсітэта і ад таго, канікулы ці семестр на двары. Легальна ж 600 еўра студэнту зарабіць цяжка, таму многія прыбягаюць да нелегальных хітрыкаў.

Але наша моладзь там не губляецца, жыве весела і ў сваё задавальненне. З якой-небудзь добрай нагоды часцяком акупіруе студэнцкую кухню. Свае вечарынкі гуляе ў родных традыцыях, чым злёгку насцярожвае жыхарсў паверху.

### Мужнасць да перамен

Цікава, колькі часу будзе выходзіць Германія з таго эканамічнага тупіка, у які «неўзабаве» трапіла? Насельніцтву гэта становішча вельмі ўнавіну, народ разгубіўся і, як ніколі, хвалюецца за блізкую будучыню. Знаёмы немец-банкір прагназаваў наступныя пяць гадоў цяжкімі і нестабільнымі. Палітыкі і эканамісты ўгледзелі прычыны ў старой і недасканалай сацыяльнай сістэме. За яе і ўхапіліся. Яшчэ ў красавіку мінулага года, выступаючы перад парламентам, Герхард Шродэр аб'явіў курс на рэфармаванне сацыяльнай сістэмы. Тады сваю прамову ён назваў «Мужнасць да міру і перамен». Маўляў, зацягваем, браце, паясы, набіраемся мужнасці і ціха–мірна пачнём тварыць перамены. Просты народ, насупраць, ва ўсім абвінавачвае ўвядзенне агульнай еўрапейскай валюты і з сацыяльнымі выплатамі расставацца не жадае. Асацыятыўная паралель: «песні-жальбы» пра тое, як танна жылося немцам з маркай, вельмі нагадваюць плач па каўбасе за рубль сорак. Тым не менш, нягледзячы на настрої яўна не ў свой бок, кіраўніцтва настроена абавязкова змяншаць і сацыяльныя дапамогі, і дапамогу па беспрацоўі. Засталося толькі даказаць беспрацоўным, што не зусім справядліва атрымліваць дапамогу ў памерах заробку некаторых. У снежні 2003-га лік беспрацоўных складаў 4,376 млн. На захадзе краіны працэнт беспрацоўя меншы (8,4%), чым на ўсходзе (17,9%). Дарэчы, каб усходняй частцы дасягнуць узроўню жыцця заходняй, ей неабходна мінімум шаснаццаць гадоў. Ускладняе эканамічную сітуацыю і тое, што некаторыя беспрацоўныя, атрымліваючы сваіх 300 еўра, нелегальна спрабуюць падпрацоўваць. Усяго ў краіне 6 млн. нелегальных рабочых. Але, наўрад ці, зменшыцца гэты лік мерамі, якія прапаноўваюць зялёныя: легалізаваць працу жанчын з Усходняй Еўропы, што нелегальна працуюць прыбіральшчыцамі. 18 лютага гэтую ідэю будуць абмяркоўваць заканадаўцы. Паводле логікі прапаноўцы Карын Герынг-Эккарт, большая частка шасцімільённай арміі нелегальных працоўных – прыбіральшчыцы з Усходняй Еўропы?.. Дарэчы, штраф за нелегальнага рабочага гаспадару зараз абыдзецца ў 1.500 еўра.

З першага студзеня чырвона-зялёнае кіраўніцтва краіны знізіла падаходны падатак, але адмяніла многія льготы, падняла аўтамабільны падатак, падатак на ваду (рэдка хто, чысцячы зубы, і да гэтага часу пакідаў цячы з крана ваду), увяло аплату за прыём урача (10 еўра), спрасціла працэдуру звальнення працаўніка, на 20 еўра павялічылася кватрплата...

### Адвесці душу

У адносінах да ўласнага адпачынку нямецкае грамадства можна назваць традыцыйным. Працаваць у выхадныя, значыць выклікаць непаразуменне суседзяў. Звычайна раніца ў нядзелю пачынаецца з наведвання царквы. Дарэчы, усе веруючыя мусяць плаціць спецыяльны падатак. Днём сям'я выязджае ў парк, суседняе мястэчка, ідзе на футбол або ў кіно ці тэатр. Калі ў будні дзень спектакль каштуе ад 8 еўра, то ў суботу-нядзелю абыдзецца ўдвая даражэй. Дыскатэка каштуе ад 5 еўра. Дзве самыя вялікія з іх знаходзяцца ў Берліне і ў невялікім горадзе Рудэрмарк. У Германіі таньчаць і пад рускую папсу. Якраз яна і складае рэпертуар рускіх дыскатэк. Іх наведвальнікі – этнічныя немцы, прыехаўшыя з былога СССР. Звычайныя ж немцы туды прыходзяць, каб на дзяўчат у спадніцах (што ёсць рэдкасць) ды на шпільках паглядзець.

Музей каштуе ад 4 еўра. Для студэнтаў (у тым ліку і замежных) – квіткі ад 2,5. У Германіі жыве адна добрая музейная традыцыя. Раз у год, ноччу, можна патрапіць ва ўсе гарадскія музеі за вельмі сімвалічны кошт. Летась улады Франкфурта (Майн) прапанавалі наведаць музеі (якіх больш за 40) усяго за 11 еўра. Былі спецыяльна арганізаваны і транспарт, і закусачныя. Фізічна ж за адну ноч магчыма паглядзець не больш за 10–12 музеяў.

Набліжаецца адно з самых вясёлых святаў, якое немцы з асаблівым нецярпеннем чакаюць. Пра гэту сярэдневяковую традыцыю нямецкага народа ў нас мала хто ведае. Перад Пасхай, дакладней, яшчэ перад Вялікім постам, ва ўсіх гарадах Германіі **праводзяць карнавал, ці Фашынг,** як яго яшчэ называюць. У гэты перыяд з немцамі адбываецца нешта незразумелае. Пачынаючы з чацвярга па аўторак яны ходзяць размаляваныя, абліваюць прахожых, шмат п'юць піва. І гэта яшчэ не мяжа. Вядома, што далёкія продкі ў перыяд Фашынгу галяком хадзілі па царкве, вазілі ў бочках нечыстоты і кідалі іх у натоўп, абмазваліся сажай, дазвалялі сабе сэксуальныя вольнасці.

Сам карнавал, шэсце пераапранутых людзей, праводзяць у панядзелак. У калоне ідуць звяры, мужчыны, пераапранутыя ў жанчын, рыцары, першапродкі народа і г.д. Крыкнеш ім грамчэй за ўсіх «Прывет» – атрымаеш цукерку, пачак пячэння, пробнік парфумы, новую кухонную анучку або кніжку. Такі шум вакол, што больш за дзве гадзіны і вытрымаць нельга. Увесь карнавальны тыдзень праходзіць у традыцыях сярэдневяковай Германіі. Лічыцца, што праз смех і перабольшванні простыя людзі мелі магчымасць паказаць кіруючаму колу на яго памылкі і высмеяць яго, а таксама пазбавіцца перад постам усёй адмоўнай энэргіі.

### Па чым праводзім

Вось якія адкрыцці я для сябе зрабіла. Немцы больш спакойныя і роўныя за нас. Нямецкае грамадства ганарыцца сваімі законамі і ўпэўнена, што законы заўсёды на баку справядлівасці. Але жыццё па правілах і інструкцыях, ад якіх яны ні на крок не адступаюць, навучыла немцаў «прамамысленню» і развучыла эксперыментаваць. Калі ж збіваецца наладжаны рытм, яны становяцца бездапаможнымі.

Гэта заключэнне на паверхні: узровень агульнай культуры (у тым ліку і вулічнай) нашмат вышэйшы за наш. І самае нечаканае адкрыццё. Як мне падаецца, радасцям, якія падкідвае жыццё, мы радуемся больш за іх. Чаму? У акіяне магчымасцяў губляецца радасць і каштоўнасць адной. Іншымі словамі, сваю «Барбарыску» мы смакуем да канца.

**Алеся МАТУСЕВІЧ**

# Змена дэфініцыяў: правыя – налева, левыя – направа

Адмова Саюза правых сілаў на сваім з'ездзе падтрымаць прэзідэнцкую кандыдатуру Ірыны Хакамады, кажучы мовай Чубайса, «забіла апошні цвік» у дамавіну правага руху Расіі ў тым выглядзе, у якім мы звыкліся яго бачыць. Гэта нядзіўна – з самага пачатку СПС у ролі аплоту свабоды і дэмакратыі быў з'явай ненатуральнай, а потым – асуджанай.

У еўрапейскай палітычнай традыцыі правымі лічацца кансерватары і рэакцыянеры, схільныя да нацыяналізму і рэлігійнай артадаксіі, любімцы арміі і сілавых структураў, палітыкі, для якіх дзяржаўны інтарэс вышэй за правы чалавека і грамадзянскія свабоды – прыклад гэтаму Джордж Буш. У гэтакай сістэме каардынатаў Пуцін – класічны правы.

Аднак у Расіі па сённяшні дзень адчуваюцца наступствы геніяльнага развароту тав. Сталіна, які скрыжаваў левардыкальную ідэю з праваслаўна-імперскай традыцыяй. Як вынік, правая ідэя маўкліва асацыявалася з лібералізмам і дэмакратычнымі рэформамі. Але калі Расія інтэгруецца назад у Еўропу, дык гэтая абераця раней ці пазней павінна змяніцца традыцыйным еўрапейскім раскладам, дзе кансерватары – направа, сацыялісты – злева, а лібералы – пасярэдзіне.

Адпаведна, дзікае для еўрапейскага вуха словазлучэнне «рэфарміцкая партыя Саюз правых сілаў» павінна сысці на сметнік гісторыі.

На правым флангу гэты працэс акрэсліўся, калі ліберал Юшанкоў разышоўся з дзяржаўнікам і паклоннікам доблесцяў рускай арміі ў Чачні Чубайсам. Ён канчаткова афарміўся цяпер у выглядзе расколу СПС з прычыны прэзідэнцкіх імкненняў Хакамады. Паралельна з гэтым і левае крыло раскалолася на «патрыятычны» і «сацыялістычны» складальнікі, выкінуўшы са свайго асяроддзя ліберала Рыбкіна.





Значэнне працэсаў, якія адбываюцца, выходзіць за межы цяперашніх выбараў, бо зараз акрэсліваюцца параметры асноўных ідэалагічных напрамкаў і іх лідэры на бачную будучыню.

Пасля перамогі Пуціна варта чакаць, што ў Расіі запануе класічная ў заходнім сэнсе правая дыктатура, якая абапіраецца на алігархічны буйны капітал і паліцэйска-бюракратычны клас. Чубайсаўскае крыло СПС, вызваліўшыся ад ліберальных прымхаў, арганічна ўвальецца ў лагер пуціністаў, дзе будзе і найдалей насаджаць сваю версію рынкавай эканомікі пры падтрымцы ўдарных аддзелаў чэкістаў у форме падатковай паліцыі.

Левыя ж будуць працягваць маргіналізавацца і драбнець, як гэта адбылося на Захадзе. Іх патрыятычная частка адыдзе да Пуціна, як толькі той пасварыцца з Захадам, што непазбежна, улічваючы яго фундаментальную антыдэмакратычную сутнасць.

Галоўным ідэалагічным антыподам Пуціна, полюсам і крышталізацыйным цэнтрам дэмакратычнай і прагрэсіўнай лініі стануць аб'яднаныя лібералы на чале з Хакамадай і Рыбкіным. Вырашыўшы кінуць асабісты і рэзкі выклік Пуціну, гэтая на першы погляд неверагодная парачка выбіла з сядла сваіх галоўных канкурэнтаў на ролю дэмакратычных лідэраў – Нямцова і Яўлінскага, якія выказалі слабасць і неаслядоўнасць у рашучы момант ідэалагічнага размежавання.

Правыя памерлі. Няхай жывуць лібералы!

**Аляксандр ГОЛЬДФАРБ,**
**Прэзідэнт Фонду грамадзянскіх свабодаў**
*Grani. ru*

# Літоўскі Уотэргейт

Парламент Літвы распачаў у студзені працэдуру імпічменту супраць прэзідэнта Раландаса Паксаса, які прабыў на сваёй пасадзе толькі год. Падставай сталі сведчанні таго, што людзі, звязаныя з расійскай арганізаванай злачыннасцю і спецслужбамі, пралезлі ў перадвыбарны штаб і прэзідэнцкую адміністрацыю Паксаса і ўцягнулі прэзідэнта і некаторых яго супрацоўнікаў у супрацьзаконную дзейнасць.

Дасье, сабранае Упраўленнем дзяржаўнай бяспекі Літвы і пададзенае ў парламент, грунтуецца на санкцыянаваным праслухоўванні размоваў некалькіх западозраных, як рускіх, так і літоўцаў. Парламент апублікаваў даклад, падрыхтаваны на падставе гэтага дасье, і пераканаўчай большасцю прагаласаваў за пачатак працэдуры імпічменту.

У дадзены час спецыяльная парламенцкая камісія праводзіць слуханні, як таго патрабуе канстытуцыя. Паксас сцвярджае, што ён невінаваты і з'яўляецца ахвярай палітычнай вендэты.

На слуханнях разглядаюцца абвінавачванні ў тым, што расійская піяр-кампанія Almax, якую падазраюць у сувязях з расійскімі спецслужбамі, сыграла важную ролю ў выбарчай кампаніі Паксаса, захоўвала кантакты з прэзідэнцкай адміністрацыяй на працягу 2003 года і спрабавала ўплываць на палітычныя працэсы ў Літве.

Вядзецца таксама расследаванне дзейнасці Юр'я Барысава, расійскага прадпрымальніка, які атрымаў у Літве від на жыхарства. У дакладзе, пададзеным у парламент, гаворыцца, што кампанія Барысава спрабавала прадаць запчасткі да ваенных верталётаў Лівіі і Судану ў парушэнне эмбарга. Сцвярджаецца, што дзякуючы хадайніцтвам прэзідэнцкай адміністрацыі Барысаву былі прадастаўлены льготныя ўмовы для бізнесу ў Літве.

Паксас, калі стаў прэзідэнтам, сваім указам даў Барысаву літоўскае грамадзянства. Абвінавачаўцы гавораць, што гэта было зроблена насуперак законнай працэдуры, і пры гэтым ігнараваліся папярэджанні спецслужбаў.

Аўтары парламенцкага даклада прыйшлі да высновы, што Паксас зрабіў сябе «неабароненым» (для шантажу і ціску), і такая сітуацыя наносіць шкоду нацыянальнай бяспецы Літвы. Канстытуцыйны суд, у сваю чаргу, заявіў, што Паксас парушыў канстытуцыю, калі даў Барысаву грамадзянства.

Лідэры буйных палітычных партый Літвы і тры былыя ачольнікі дзяржавы заклікалі Паксаса пайсці ў адстаўку. Толькі Ліберальна-дэмакратычная партыя, створаная Паксасам, падтрымлівае прэзідэнта. У 90-я гады Паксас стварыў паспяховую будаўнічую кампанію ў Вільнюсе і двойчы выбіраўся мэрам сталіцы. Але пасля 1999 года, калі ён стаў прэм'ер-міністрам, Паксас паказаў сябе няўстойлівым і непрадказальным палітыкам. Ён стварыў партыю як сродак барацьбы за



пост прэзідэнта на студзеньскіх выбарах 2003 года.

Кампанія Паксаса была тыпова папуліцкая. Скарыстоўваючы незадаволенне сацыяльных груп, якія пацярпелі пры пераходзе да рынкавай эканомікі, ён абвясціў сябе абаронцам простых людзей ад «эліты» і замежнікаў. Паксас атрымаў перамогу над прэзідэнтам Валдасам Адамкусам, літоўцам амерыканскага паходжання, набраўшы 54% галасоў супраць 46. Але малая яўка азначала, што Паксаса выбрала прыкладна чвэрць электарату.

Цяпер Паксас праводзіць мітынгі ў мястэчках. Яго прыхільнікі – гэта галоўным чынамі сельскія жыхары сталага веку з нізкімі даходамі. Яго галоны лозунг, які заклікае сплочваца сацыяльна «чэсную Літву», арыентаваны на гэтую сацыяльную праслойку. Паксаса падтрымоўваюць таксама некалькі радыкальных левых і правых груповак, якія заўсёды выступалі супраць еўра-атлантычнай пазіцыі Літвы.

Рост ВНП у Літве самы вялікі ў Еўропе, у 2003 годзе ён склаў 8%. Бюджэтны дэфіцыт у 2003 годзе складаў 2,6%, на 2004 год запланавана 2,95%, але і гэта ніжэй 3-працэнтнага ліміту ЕС, з якім летась справіліся не ўсе члены Саюза.

Даходы бюджэту ў 2003 годзе былі вышэй запланаваных, што дазволіла павялічыць асігнаванні на ахову здароўя, адукацыю і сельскую гаспадарку, а таксама павысіць мінімальную зарплату. Узровень інфляцыі нізкі, абменны курс стабільны. У 2006 годзе Літва плануе перайсці на еўра, а ў 2007 годзе далучыцца да Шангенскіх пагадненняў.

Гэтыя эканамічныя дасягненні і хуткае ўступленне ў ЕС адкрываюць перад Літвой рэальную магчымасць паконцыць з такімі аспектамі савецкай спадчыны, як беспрацоўе і адставанне ў развіцці сельскіх рэгіёнаў.

Літва штогод выдаткоўвае на абарону 2% ВНП, выконваючы патрабаванне НАТО. У выніку Літва падрыхтаваная ўступіць у НАТО і Еўрапейскі Саюз як моцны ігрок.

Калі нават Паксас будзе змушаны пайсці з пасады прэзідэнта, гэта будзе ўспрынята не як слабасць Літвы, а як доказ перавагі законаў у дзяржаўным жыцці краіны, як яшчэ адна падстава для еўрапейскага даверу Літве.

**Уладзімір СОКАР**
*Nyt Wall Street Journal*

## Падзеі

### З Еўропы ў Азію цягніком пад зямлёй

Праз некалькі месяцаў у Стамбуле пачнецца будаўніцтва чыгуначнага тунэля пад Басфорам. Гэта дасць вялікую палёгку сотням тысяч людзей, якія ездзяць на працу з кантынента на кантынент, і шматлікім турыстам.



Першы мост цераз Басфор – шасціпалосны, даўжынёй 1.074 метры – быў адкрыты 23 кастрычніка 1973 года. Ён узвышаецца над праліваам на 60 метраў. У 1988 годзе блізка да яго быў збудаваны другі мост. Але абодва даўно перагружаны: штодзённа па іх праносяцца 300 тысяч легкавікоў, грузавікоў, аўтобусаў – болей за 200 машын за хвіліну. У гадзіны пік каля мастоў узнікае шматкіламетровая чарга.

Ідэя аб будаўніцтве трэцяга моста была адхілена. Гэта патрабавала б зносу тысяч дамоў у жылых стамбульскіх кварталах.

Таму былі распрацаваны праект чыгуначнага тунэля пад марскім пралівам. З запланаваных 13,5 кіламетраў толькі 1,8 кіламетра пройдуць непасрэдна пад вадой. Астатнія 11 – пад гарадской забудовай на еўрапейскім і азіяцкім берагах. Тунэль будзе прапускаць 150 тысяч пасажыраў за гадзіну, цягнікі будуць курсіраваць з інтэрвалам 90 секунд.

Спробы злучыць адзін з адным два кантыненты вядомыя з VI стагоддзя да нашай эры. Тады праліў фарсіравала армія персідскага цара Дарыя. Ён загадаў збудаваць пантонны мост, па якім яго войска ўвайшло ў Еўропу.

Цяпер берагі праліва злучаць болей надзейна. Выдаткі на будаўніцтва ў памеры 2 мільярдаў еўра будуць забяспечаны крэдытамі Японскага банка міжнароднага супрацоўніцтва і Еўрапейскага інвестыцыйнага банка. Будаўніцтва разлічана на чатыры гады.

**Frankfurter Rundschau**

### Папа рымскі знаёміўся з маладзёвай культурай

Папу рымскага Яна Паўла II азнаёмілі з апошнімі павевамі маладзёвай культуры. Гэта адбылося пасля таго, як пантыфік правёў традыцыйную нядзельную мшу «Ангелус». Перад ім у тронным зале Ватыкана выступілі юныя выхаванцы польскага Цэнтра развіцця творчых здольнасцяў, якія выканалі танцы ў сучасных рытмах - рэп і брэйк-данс, а таксама прадэманстравалі майстэрства графіці – малявання з дапамогай аэразольных фарбаў.

Ян Павел II, з цікаўнасцю прагледзеўшы ўсе выступы і творы сваіх юных суайчыннікаў, сказаў у сваім слове да падлеткаў, што «талент артыста – гэта дар Божы, які нельга марнаваць, а трэба развіваць». «Прыгожае можа існаваць толькі тады, калі ў ім жывуць сілы дабра. Артыст нясе адказнасць не толькі за эстэтычнае, але і за маральнае вымярэнне свету», – падкрэсліў папа рымскі.

### Курорт на месцы масавых забойстваў

Калі ў студзені 1945 года Чырвоная Армія распачала вызваленне Польшчы, нацысты адправілі болей за 7 тысяч габрэяў з лагера Штутхоф «маршам смерці» на ўсход, у тую частку Усходняй Прусіі, дзе адбываліся жорсткія баі. У ноч на 10 студзеня члены Гітлерюгенда, мясцовыя паліцаі і эсэсаўцы, якія гналі 6 тысяч жанчын і тысячу мужчын да Балтыйскага мора, спыніліся ў гарадку Палмнікен (цяпер горад Янтарны Калінінградскай вобласці). Тут габрэяў паставілі над прыбярэжным абрывам і расстралялі. Целы забітых скідвалі ў мора. Бойня працягвалася ўсю ноч. У жывых засталіся толькі 13 чалавек.

Усё лета 1945 года мерцвякоў мора вяртала на бераг. Іх хавалі там, дзе знаходзілі, і ўзбярэжжа ператваралася ў сапраўдныя магілкі (некалькі тысяч пахаваных). Гэтае масавае забойства прынята лічыць як апошнюю акцыю Халакосту. Штогод 31 студзеня на гэтым месцы ў расійскім горадзе Янтарны праходзіць жалобная цырымонія.

У снежні мінулага года галава мясцовай адміністрацыі Ігар Казакоў падпісаў дакумент, які дазваляе мясцовай фірме пабудаваць на гэтым месцы Дом адпачынку. Ачольнік габрэйскай абшчыны Калінінградскай вобласці заявіў: «Гэта беспрэцэдэнтнае і абсурднае рашэнне, якое абурыла ўсю габрэйскую абшчыну».

Мясцовыя жыхары напісалі лісты пратэсту, і спадзяюцца, што скандальнае рашэнне, якое іх ганьбуе, будзе адменена.

**The Gardian**

